ISSN 0320-7579

№ 2/2016(1053)

# Бярозка

 марыць і дзейнічаць

Малюнак Алесі Галоты

НОВЫ ПРАЕКТ
**АПОВЕСЦЬ-КАНСТРУКТАР**

## РЭПАРТАЖ СА СВЯТА СМЕЦЦЯ
і размова з прыдумшчыцай Пранціша Вырвіча

**№ 2**

## КАХАННЕ, ЯК АБЛАЧЫНКА
і мроіва над балотам

# Птушынае царства

***Музей прыроды і экалогіі Беларусі прадстаўляе***



Каралёк жоўтагаловы — самая маленькая птушка ў нашай краіне. Калі прыглядзецца, можна заўважыць чубок з яркага пер'я. Дарослая птушка важыць пяць грамаў. Птушаня нараджаецца з вагой у адзін грам і памерам з пазногаць першакласніка.



Сучаснік маманта — птушка пардва. Занесена ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Белы колер «носіць» толькі зімой. Улетку, вясной і восенню яна пярэстая. Пер'е расце на лапках да самых кіпцюроў, што ахоўвае птушку ад марозу.



Удода называюць беларускім папугаем за яркае пер'е. Чубок, у залежнасці ад настрою, можа быць незаўважным, калі птушка прыціскае яго да галавы, або распушчаным, калі яна непакоіцца ці праяўляе зацікаўленасць. Дзюба, падобная на пінцэт, дазваляе выкалупваць з-пад кары лічынак казюрак. Удод можа, як матылёк, завісаць у паветры. Жывуць гэтыя птушкі ў пакінутых дуплах, самі гнёздаў не плятуць.



Свіргуль чорны. Хуткасць палёту 180 км/г. Навукоўцы падлічылі, што свіргулі чорныя за сваё жыццё ні разу не прысядаюць на апірышча. Размнажаюцца і харчуюцца ў паветры. Калі пралятаюць над рэчкай або возерам, зачэрпваюць дзюбай ваду. Свіргулі наведваюцца ў месцы, дзе шмат людзей, у час вывядзення патомства і выбіраюць сабе самы высокі будынак. Гнёзды размяшчаюць на ім вертыкальна. Так, на адной сцяне можа з'явіцца каля 20—25 птушыных хатак.

*Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, вул. К. Маркса, 12.*

# Фантастыка!



*Ліза Карчэня*
*9 клас, гімназія*
*№ 10, Мінск*

Мяркую, што кожны з нас задаваўся пытаннем «Як гэта працуе?» і адказ знаходзіў не заўсёды. Космас, час, мінулае і будучыня, жывёлы, надвор'е, паводзіны, іншае... Сёння навука можа адказаць на пытанні, якія, мабыць, і ў галаву не прыходзілі. І гэта ўражвае.

Спачатку я хацелася даведацца пра зоркі. Яны вельмі прыгожыя, але маленькія і далёкія. Калі першы раз мой дзядуля сказаў, што на самай справе зоркі вялізныя і гарачыя, я здзівілася. Цяпер мне цікава ведаць пра час. Што гэта? Як ён ідзе? Чаму так шмат гаворыцца пра падарожжы ў часе? І я, як, мабыць, кожны, маю свой, асаблівы погляд на час і мінулае нашай планеты.

Фантастыка. Яе заўсёды разглядаюць у звязцы з марай. Пра што людзі мараць? Нехта — пра багацце, нехта — пра каханне, нехта — пра поспех. Але фантасты — не яны. Фантасты — гэта людзі, якія мараць пра нешта вельмі значнае: будучыню Зямлі, мінулае космасу. Яны мараць пра тое, пра што ў штодзённым жыцці ніхто не марыць, пра падзеі, якія адбывацца не могуць, пра аб'екты, якія не могуць існаваць: тэлепартацыю, чараўніцтва, фей і ведзьмакоў. Я таксама люблю марыць. І раблю гэта заўсёды: на ўроках і дома, калі недзе іду або некуды еду. Мары скарачаюць час, а ў галаве адбываецца столькі ўсяго, што цяжка запомніць.

Нехта некалі пра нешта марыў — і ў нейкі момант яго мары перасталі быць марамі, а зрабіліся раптам тым, што сёння выкарыстоўваецца ўсімі. Часта шлях ад мары да рэальнасці ляжыць праз фантастычную літаратуру. І на яе, літаратуру, фантастыка мае не меншы ўплыў. Не толькі мары пра лепшую будучыню з'яўляюцца ў такой літаратуры, але і… новыя віды тэксту.

Я пішу пра падарожжа ў часе. Гэта цікавіць мяне, бо я ўпэўнена, што аднойчы мы пачнём так падарожнічаць. Будуць створаны адмысловыя правілы, як гэта трэба рабіць, а таксама будуць існаваць парталы ў асобныя месцы, куды ўсе мараць трапіць, і нават будзе арганізаваны часавы турызм!

Але фантастыка ўтрымліваецца і ў тым, што я пішу. Я пішу пра час — як пра нешта рэальнае, пра час, да якога можна дакрануцца, пра час, які можна адчуць, пра час, які можна ўбачыць. Гэта і ёсць фантастыка. Бо такога ніколі не будзе, але сусвет такі дзіўны, стары і вялікі, што адбыцца ў ім можа ўсё...



*Мастачка Марыя Агрэніч*

# Паспець усё!


Сяргей Грудніцкі,
11 клас, СШ № 66, Гомель

***Як часта нам не хапае 24 гадзін у сутках, каб паспяваць рабіць не толькі тое, што трэба, але і тое, што хочацца. Што ж рабіць? Прапаную некалькі парад, якія дапамагаюць мне размяркоўваць час на працу і адпачынак.***

**Спіс.** Вазьмі за правіла штовечар складаць план на заўтра. Распісвай кожныя пяць хвілін, не забываючы пакідаць некаторую колькасць часу «на запас». Рэжым дня на паперы прымусіць быць максімальна сабраным.

**Прабелы.** Запаўняй дробныя пропускі (моманты, калі едзеш у транспарце, стаіш у доўгай чарзе, чакаеш сябра) карыснымі заняткамі. Задалі шмат урокаў, а трэба ехаць да рэпетытара / у харэаграфічную школу / да бабулі ў іншы канец горада? Захапі ў дарогу некалькі падручнікаў з вуснымі тэмамі. А калі твая мабільная прылада дазваляе фатаграфаваць тэкст у высокай якасці, наогул выдатна.

**Сеткі.** Парада вельмі ўжо зашмальцаваная, але і вельмі дзейсная. Падчас любых важных спраў і заняткаў глабальная сетка — твой вораг, і чым хутчэй ты зможаш сказаць «не» «Вконтакте», «Юцюбу» і «Інстаграму», тым хутчэй завершыш пачатае.

**Размеркаванне.** Старайся выконваць цяжкія заданні ў першай палове дня: да 12:00 ты яшчэ бадзёры, а значыць твая прадуктыўнасць куды вышэйшая, чым вечарам. Стомлены, ты не адужаеш нават той прыклад па матэматыцы, які з раніцы здаваўся звышлёгкім.

**Кнігі.** Без мастацкай літаратуры не можаш пражыць і дня? Але ж колькі часу ідзе на чытанне, асабліва калі кніга вельмі займальная. Так і на сустрэчу спазніцца лёгка. Што рабіць? Карыстацца найноўшымі тэхналогіямі! У інтэрнэце ў вольным доступе ёсць сотні кніг, запісаных у аўдыяварыянце. Але калі ты не знойдзеш патрэбны табе тэкст, агучаны голасам дыктара, гэта не павінна стаць нагодай для засмучэння: з’явілася праграма для мабільных прылад, якая прайграе тэкставыя дакументы ўголас! Толькі падумай: ты зможаш атрымліваць асалоду ад твораў любімых аўтараў, адначасова прыбіраючы ў пакоі, ідучы ў школу, займаючыся ранішняй зарадкай.

**Хатнія заданні.** Магу параіць рабіць пісьмовыя практыкаванні адразу пасля вяртання са школы, потым даць сабе некалькі гадзін на адпачынак, а бліжэй да вечара брацца за параграфы гісторыі-біялогіі-геаграфіі.

**Забарона.** Вазьмі за правіла: пасля 22:00 урокамі ты не займаешся, нават калі засталіся нявыкананыя заданні (для іх ёсць заўтрашняя раніца і перапынкі паміж урокамі). Прысвяці час перад сном рэлаксацыі: паслухай спакойную музыку, паглядзі адну серыю камедыйнага серыяла. І не забывай, што чалавек павінен спаць не менш за 8 гадзін у суткі.

***Усюды спазняецеся, нікуды не паспяваеце? Магчыма, да парад Сяргея варта прыслухацца, бо ён — рэкардсмен па дасланых у «Бярозку» артыкулах за адзінку часу ;-).***

# «Лайкі» пісьменніку не дапамогуць




***З Людмілай Рублеўскай мяне пазнаёмілі два незвычайныя чалавекі — пракудлівы шкаляр Пранціш Вырвіч і яго вучоны раб, алхімік Баўтрамей Лёднік, героі серыі яе кніг «Авантуры Пранціша Вырвіча». Зразумела, нельга ўпусціць магчымасць паразмаўляць з аўтарам любімых твораў. Людміла Іванаўна распавяла пра школу, юнацкі пратэст, крытыку і пра тое, як п'яны янот вызначае, добры ты паэт ці дрэнны.***

**— Ваш літаратурны талент, напэўна, праяўляўся ўжо ў дзяцінстве.**

— Паколькі для маленькіх дзяцей мастацтва па жанрах не раздзяляецца, то яны і малююць, і спяваюць, і танцуюць, і сачыняюць… Я не памятаю, калі я пачала сачыняць, першыя мае вершы запісвала мама, хоць у тры гады я ўжо добра чытала і магла штосьці накрэмзаць. Жаданне прыдумляць гісторыі ў мяне было заўсёды. Але ўсё павінна адбывацца ў свой час. Калі дзіця ў 8—9 гадоў піша як дарослы, мяне гэта крыху насцярожвае. Усё роўна прыйдзе час ломкі і сталення. І што адбудзецца з творчым бокам, невядома. Пра гэта сведчыць лёс шмат якіх вундэркіндаў. Для сябе я адлічваю, што сапраўдныя вершы са складанымі вобразамі, якія аднекуль прыходзяць і з'яўленне якіх ніякай логіцы не падлягае, я пачала пісаць недзе ў 13—14 гадоў.

**— Пра што вы пісалі?**

— Пра што пішуць усе тынэйджары: пра жыццё і смерць, усведамленне сябе ў свеце, супрацьпастаўленне сябе свету. Дарэчы, у мяне быў вельмі моцны пратэстны пачатак. Памятаю, мой першы сшытак з «сапраўднымі» вершамі мама




з бабуляй проста спалілі, бо перапалохаліся: там закраналіся вельмі вострыя тэмы. Я шмат чытала сапраўды добрай літаратуры, якая выхоўвае здольнасць да самастойнага мыслення. Пісала выкрывальныя вершы — а быў канец 1970-х гадоў. Выпісвала ў сшытак звесткі пра закрытыя атэлье, дзе шылі пыжыкавыя шапкі для кіраўнікоў... Спрабавала чытаць Маркса-Энгельса, параўноўваць прачытанае з рэальнасцю. Цяпер я разумею, што гэта ўсё перагукалася з творчасцю рокераў, якіх я тады не мела магчымасці чуць. Са мной правялі размову, намякнулі, што так нельга, бо дрэнна скончыцца. На маё шчасце, не падвярнулася адпаведнага асяродку, бо я жыла ў звычайным працоўным раёне і вельмі доўга навокал не было падобных да мяне.

**— Ваш юнацкі пратэст праяўляўся у чымсьці, акрамя вершаў?**

— У гэтым і ёсць сутнасць творчага чалавека: мне не трэба было з кімсьці біцца, бо для гэтага ў мяне ёсць творы. Я заўсёды стварала ўражанне добрай дзяўчынкі. Цяпер, калі я сустракаюся са сваімі былымі аднакласнікамі ці аднакурснікамі, вельмі здзіўляюся, калі чую, як яны мяне ўспрымалі: «Ты ж такая была незвычайная». Быў час, калі мая «незвычайнасць» мяне напружвала. Я апынулася ў стане нейкага ізгоя, бо было несупадзенне: школа ў працоўным раёне, а я тут уся такая ў падручніках па філасофіі. Але гэта быў кароткі перыяд, бо потым я звярнулася да ўсведамлення каштоўнасці свайго сусвету. А ніякіх асацыяльных паводзінаў я за сабой не памятаю. Канешне, калі я пачала пісаць «па-сапраўднаму», старалася спасцігаць жыццё, назіраць, трапляла ў нечаканыя кампаніі, якія ўспомніць страшна. Як казаў Міхаіл Чэхаў, артыст, пляменнік вядомага пісьменніка: «Не абавязкова быць засмажаным, каб іграць яешню». Але ведаць, як яна выглядае, трэба.

**— А як атрымалася, што з прагай да літаратуры вы апынуліся ў будаўнічым тэхнікуме?**

— Мне трэба было сысці са школы. Я скончыла 8 класаў, вучылася вельмі добра. Але наш клас афіцыйна называўся бандай, меў сваю іерархію. Было некалькі гэткіх лідараў, па руках нават хадзілі паперкі, на якіх было распісана, у каго якая «пасада»: атаманша, намеснікі, «шасцёркі». А я не ўпісвалася ні ў якія партыі і групы, таму мяне запісалі асобна ў партыю анархістаў. Я была яе главой, яшчэ тры сяброўкі са мной, і атаманша сказала нас не чапаць. Я ніколі не ўдзельнічала ў агульных разборках ці прагулах урокаў. Канешне, мне было дзе выпрацоўваць характар: напрыклад, сядзіш на ўроку, а цябе ззаду іголкамі колюць. Таму мы з сяброўкай узялі даведнік па сярэдніх навучальных установах і пачалі гартаць. Яна выбрала «афарбоўку тканіны», уяўляла, што будзе маляваць, а потым высветлілася, што гэта — чыстая хімія, трэба лабарантам на заводзе працаваць.

А я таксама малявала, займалася ў студыі, збіралася пайсці ў мастацкую вучэльню, але мая настаўніца сказала: «Ты там можаш карабкі для запалак маляваць», і я пайшла ў архітэктурны. Не шкадую, бо нават у Літаратурны інстытут не прымалі чалавека, у якога няма двух гадоў працоўнага стажу, бо пра што ж ён будзе пісаць, калі жыцця не ведае.

**— У якіх абставінах вы пішаце?**

— Калі ўжо распішашся, то можаш рабіць гэта ў любых абставінах, хоць у ідэале ўсё павінна быць аскетычна: сцяна, стол, крэсла. Хтосьці з жанчын-феміністак сфармуляваў прынцып: у жанчыны павінен быць пакой, куды ніхто не можа зайсці без яе дазволу. Да мяне, канешне, заходзяць, але калі я пішу, то не чапаюць. Ну і самае галоўнае, каб больш нідзе не працаваць. На жаль, гэта застаецца толькі марай. А з іншага боку, мяне і супакойвае тое, колькі ўсяго я бяру са сваёй журналісцкай працы, бо пішу пра тое, што мне цікава: даследаванні па гісторыі, лёсы літаратараў, цікавыя людзі, дыскусіі, паездкі — з усяго можна зрабіць матэрыял для сваёй асноўнай творчасці.

**— Як правільна творчага чалавека пахваліць?**

— Для мяне лепшая пахвала — гэта калі гавораць найперш пра маіх герояў. Калі я бачу, што чалавек прачытаў, захапіўся, што мае героі сталі для яго жывымі, як і для мяне, — гэта такая радасць, нібы земляка сустрэў і пачынаеш успамінаць, як там на радзіме, размаўляць пра знаёмых. А пахвала тыпу «жывы класік» мяне вельмі бянтэжыць, бо я добра ведаю няпэўнасць гэтых фармулёвак. Пахвалу ўспрымаю толькі праз тое, што зроблена.

**— А пакрытыкаваць?**

— Я даю чытаць свае рукапісы, перш чым аддаваць у друк, і заўсёды ўдзячная, калі хтосьці знаходзіць, дзе я была недакладнай. Пісьменнік Віктар Шклоўскі раіў ніколі не чытаць крытыку на сябе і шмат у чым меў рацыю. Таму што твор ужо зроблены, удалы ці няўдалы, але ён ёсць. Крытыка карысная перад тым, як твор аддадзены ў друк, а пасля крытык павінен тлумачыць твор для чытача, казаць, што ён там заўважыў, як гэта ўпісваецца ў час, якія ёсць падтэксты. Тады гэта цікава. Любы твор можна знішчыць, варта толькі ўзяць іранічны тон і чытача ў саўдзельнікі, прапаноўваючы яму разам «паржаць» з амбіцыйнага няўмекі-пісьменніка. Усё вельмі адносна, таму адзінае, што можна параіць, — рабіць сваю справу. Найперш трэба быць тоесным самому сабе. Чым больш вытыркаешся, тым больш на цябе будуць нападаць. У мяне ў гэтым дачыненні добры імунітэт. Хтосьці кажа: «так нельга пісаць раманы», але ж я напісала. І што мне цяпер рабіць?..



*Другую частку размовы з Людмілай Рублеўскай чытайце ў праекце «Бярозка плюс» на www.maladost.lim.by/berezka*

# Гіпапатам Веня



Аўтар рубрыкі Ліна Балданава

— Ну, усё, мне канец, — падумаў Веніямін, сядаючы на лаўку.

І меў для гэтага падставы. З залішняй вагой яшчэ можна было як-небудзь паспрачацца, а вось з нехлямяжасцю…

І чаму ў праграме па фізвыхаванні так шмат гадзін ідзе на гімнастыку? Ды лепш бы баскетбол ці лёгкая атлетыка: там сачкануць — раз плюнуць. А тут — усё Уладзімір Алегавіч бачыць. Падыходзь па чарзе і скачы праз казла, каб яму праваліцца.

— Ну, што зажурыўся, Таптыгін? — падсеў да пакутніка галоўны гімназіст класа Яўген. — Зноў грымнешся? Чакаем з нецярпеннем, нам пазітыўчык не перашкодзіць.

— І чаго да чалавека прычапіўся? — абурылася першая прыгажуня класа Лера Разумовіч. — Можна падумаць, у цябе абломаў не здаралася. Знайшоў пазітыўчык! Сумленне трэба мець.

— Вось менавіта…

— Сам дурны…

— Канчай рабіць подласці, Яўген! — пранеслася па зале.

— Гуманісты знайшліся. А тое, што Венькава нехлямяжасць нам трэці год не дае заняць першае месца ў намінацыі «Клас года», ужо нікога не хвалюе? — крануў за жывое няўрымслівы Яўген. — Так і будзем гультаёў гладзіць па шэрстцы, а самі на трэцім месцы таптацца. Добра, я сваю пазіцыю акрэсліў, пайшоў на старт. Хто наступны?

Клас маўчаў і не варушыўся. Некаторыя з незадавальненнем пазіралі на Веніяміна. Погляды іншых ранілі хлопца спачуваннем. Ён пачырванеў і уткнуўся

носам у калені. Калі б можна было скрозь падлогу праваліцца!

Паскарэнне васьмікласнікам надаў свісток фізрука.

— Шыцік, наступны. Потым Сандзюк і Паўтарыхін. Замыкаюць групу Шымак і Пішчук. Пятроў рыхтуецца маральна, прапускае першы круг. Але на праблеме не канцэнтруецца. Дзяўчаты, прымасціцеся ззаду. І давайце ў тэмпе.

Вось калі б у праграму ўнеслі барацьбу. Не важна — класіку ці вольную — тут бы Веніямін вылучыўся. Ухапіць худасочнага Жэку за бакі і кінуць на кілім пяць разоў. Хоць наўрад ці, выкруціўся б, гад. Не, хоць круць-верць, хоць верць-круць, а фізвыхаванне не яго прадмет. Іншая справа фізіка. Парадокс — пачынаюцца і канчаюцца на адны літары, у сэнсе, пэўным чынам супадаюць, а вынік…

*Пра парады ад бабулі з пруткамі, сімпатулькі, першакласніка з яблыкам, прасунутага старшакласніка, вопытнага псіхолага і таварыша па няшчасці чытайце ў праекце «Бярозка плюс» на www.maladost.lim.by/berezka*

Іншая справа дарослае жыццё. Вунь, тата — 120 кэгэ, спорт — хакей з футболам, і тое з канапы. І гэта не перашкаджае яму быць камерцыйным дырэктарам. І жонка ў яго прыгажуня. А тут паспрабуй пакліч Леру ў кіно — уся школа тры дні рагатаць будзе.

— Ну што Пятроў, твая чарга.

Выбух смеху ўзрушыў залу. Веня с цяжкасцю ўстаў з мата. Тры тыдні студзеня, два лютага; восьмы, дзявяты, дзясяты, адзінаццаты плюс армія — і як гэта вытрываць?

— Прывітанне бегемотам! — скандзіраваў з гімнастычнай сценкі Яўген, які атрымаў сваю «дзясятку».

— Гіпапатамам… — хіхікаў хтосьці з натоўпу.

— Хлопчыкі! — заклікала да сумлення аднакласнікаў Лера.

— У суботу на дадатковыя прыходзь, — дапамог падняцца лузару Уладзімір Алегавіч. — Нават не ведаю, што з табою рабіць. Хіба што адпрацуеш у наступнай чвэрці. Ці хай маці даведку на падрыхтоўчую групу прынясе, каб пасведчанне не псаваць.

Якая даведка? Веня здаровы як бугай. Дакладней, як гіпапатам, каб яму праваліцца! Ён яшчэ раз паспрабаваў гэта зрабіць. Куды там, трывалы брус не зварухнуўся. Клас пайшоў у раздзявалку. А няўдачнік Пятроў застаўся, яму не хацелася выслухваць насмешкі прыяцеляў. Лепш на матэматыку спазніцца, самая добрая Таццяна Мікалаеўна ўсё разумее.

Веніямін з нянавісцю паглядзеў на застылую ў чаканні новых ахвяр скурана-металічную «жывёліну». Падняўся, разбегся з усіх сіл. І зноў скокнуў. Цуд не адбыўся. Аднак ніхто і не сумняваўся.

Устаў. Пацёр выцятае месца і пацягнуўся ў раздзявалку. У дзвярах сутыкнуўся з прыбіральшчыцай. Хацеў працiснуцца першым, пхнуў вядро з вадой. Схапіў на ляту: якія-ніякая, а ўдача. Папрасіў прабачэння і пачуў за спінай крыўднае:

— Цяльпук!

Скажыце на міласць, ну як з гэтым жыць?



*Святлана Сітнік, псіхолаг*

# Вызвалі свой час!

— Нарэшце я дома! — Саша кінула рукзак пасярод пакоя, высыпала падручнікі, вызваляючы месца для спартыўнай формы. — Перакушу, адпачну і на трэніроўку.

Званок суседкі па парце адарваў яе ад думак — сяброўка спытала пра хатняе заданне. Саша пакорпалася ў партфелі, знайшла дзённік, прытуліла тэлефон да вуха, выслухала абурэнні суседкі наконт зададзенага, некалькі плётак пра аднакласнікаў, працяг гісторыі кахання сяброўчынай сястры… Глянула на гадзіннік: яна зноў спазняецца на трэніроўку! Трэнер будзе вельмі сярдзіты і пакарае яе ганебнымі дваццаццю прысяданнямі!

Дзяўчына схапіла форму — прасаваць яе ўжо не было часу, хутка запіхала яе ў рукзак, па дарозе ўзяла яблык — пра абед трэба забыцца, накінула паліто — зашпіліцца можна і ў ліфце, і разгубленая пабегла на вуліцу.

Саша цяжка ўздыхала і зашпільвала гузікі — як жа ёй абрыдлі гэтыя бясконцыя спешкі і спазненні! Чаму ёй заўсёды не хапае часу? Ён быццам бяжыць ад яе, як сапернік з мячом, які імкнецца на другі канец баскетбольнай пляцоўкі… Што не так?

Наш час не бясконцы, ён абмяжоўваецца: 24 гадзіны ў сутках, не больш. Але і не менш! Гэта шмат? Ці мала? Залежыць ад цябе.

Саша марнуе свой час на пустаслоўі з сяброўкай. У выніку яна галодная, сонная і спазняецца. На яе сварыцца трэнер, а навакольныя бачаць яе ў пакамечанай неахайнай спартыўнай форме. Гэта ўсё таму, што Саша не кіруе сваім часам — ім кіруе яе сяброўка!

Многія людзі скардзяцца на недахоп часу, не заўважаюць, як самі раздаюць яго направа і налева, адкладаюць свае жаданні на пасля, кажуць «пакуль што ў мяне на гэта няма часу».

Ты хочаш паспяваць больш, хочаш мець больш вольнага часу на любімыя справы, заняцца спортам ці падцягнуць які-небудзь прадмет, але табе не хапае 24-х гадзін? Тады ты павінен навучыцца кіраваць сваімі гадзінамі і хвілінамі, пускаць іх на карысць сабе, а не іншым. А для гэтага…

Падумай, ці магчыма скараціць час стасункаў з некаторымі з тваіх сяброў? Калі так, зрабі гэта.

Перагледзь інфармацыю ў «Вконтакте». Магчыма, і сярод «сяброў» ёсць тыя, хто заходзіць да цябе пабалбатаць ні пра што.

Старайся не весціся на прапановы іншых.




— Міша запрасіў мяне пагуляць па горадзе, — распавядае Марына. — Я пагадзілася, бо ўжо два разы яму адмаўляла, а ён — мой сябар. Я не захацела яго крыўдзіць. Але як я не хацела выходзіць з дому! На вуліцы холад і вецер, мне хацелася застацца дома, залезці пад плед, піць гарбату і глядзець тэлевізар… Але давялося ісці.

Пагадзіўшыся на прагулку з Мішам, Марына выконвала чужое жаданне, а не сваё. Яна разумее, што траціць выхадны не так, як хочацца ёй, і злуецца на сябе і Мішу. Настрой — ніякі, прагулка ператварылася ў сумны, нецікавы і марны занятак.

Што магла б зрабіць Марына, каб здзейсніць свае жаданні і не пакрыўдзіць сябра? Яна магла запрасіць яго да сябе, або перанесці сустрэчу на час, калі пацяплее, або прапанаваць убачыцца, калі ў Марыны самой з'явіцца жаданне пагуляць.

*Мастачка Марыя Агрэніч*

Не «завісай». Калі Паша прыходзіў дадому, перш за ўсё ён уключаў тэлевізар — музычны канал. Каб абедаць было весялей. Але ежа канчалася, а кліпы працягваліся. І мама, якая ўжо вярнулася з працы, зноў была ў неразуменні: «Што ты цэлы дзень рабіў? Ты нават талеркі за сабой не памыў! І зноў урокі не зроблены!»

Разам з мамай Паша пачынаў рабіць урокі, і так дапазна, а раніцай стомленыя маці і сын ішлі па сваіх «школьных» і «працоўных» справах…

Паша можа пазбегнуць сваркі з мамай, ды і мама, пэўна ж, не хоча сварыцца, але Паша робіць памылку ў кіраванні сваім часам — ён «завісае», як стары комп, у адной праграме: кожны дзень уключае музычны канал, а выключыць забываецца. Тэлевізар, як магніт, прыцягвае да сябе.

Гэтаксама можна «завіснуць» у інтэрнэце, «Вконтакте», на форумах, за камп'ютарнай гульнёй ці чытаннем — і забыцца пра тое, што сапраўды важна ў дадзены момант.

Вольны час — гэта не той час, які марнуюць, а час, вольны ад нязначнага і непатрэбнага. Вольны час — гэта час, які ты вызваляеш для тых спраў, што важныя для цябе! Вызвалі свой час — і хутка ты заўважыш, як гэта шмат — 24 гадзіны ў сутках!


Яна Мусвідас

# Кніга, якая яшчэ не напісана

Я належу да ліку тых самых закасцянелых кансерватараў, якія лічаць, што лепшы падарунак — гэта кніга, а замест электроннай «чыталкі» выбіраюць папяровы асобнік. Аднойчы я падарыла сябру стос старанна падабраных кніг. Мне здавалася, што больш душы ўкласці ў падарунак немагчыма. Аднак мой «прэзент» быў недаацэнены, а кнігі — не былі прачытаны.

«Ты бачыш адну карціну, я — іншую, у альбоме з рэпрадукцыямі яна намаляваная зусім па-іншаму, кабета, якая ў сувенірнай краме купляе паштоўку з яе выявай, бачыць штосьці ўвогуле сваё, я ўжо маўчу пра людзей, якіх ад нас з табой аддзяляе час — за чатырыста гадоў да нас, чатырыста гадоў пасля нас, — ніколі твор не выклікае двух аднолькавых рэакцый», — піша ўладальніца Пулітцэраўскай прэміі Дона Тарт у сваім нашумелым рамане «Шчыгол». Яе тэзіс выкарыстоўваецца і ў дачыненні да літаратуры. Ніхто з нас не прачытае адной і той жа кнігі, ва ўспрыманні кожнага яны істотна адрозніваюцца.

Майму брату адзінаццаць, ён перакананы ў тым, што не любіць чытаць, а я настойваю на тым, што ён яшчэ не сустрэў свой твор. Розніца нашых успрыманняў не дае яму палюбіць тое, што парэкамендавала я.

Многія аўтары ў душы спадзяюцца на велізарныя тыражы і поспех, але ад чаго гэта залежыць? Час ад часу таленавіта напісаныя творы не набіраюць папулярнасці ў масах з-за сваёй складанасці, але гэта не робіць іх менш каштоўнымі.

Не так даўно на адным з заняткаў у нас з аднагрупнікамі ўзнікла непаразуменне. Выкладчык прапанаваў прачытаць кнігі Святланы Алексіевіч. Адна са студэнтак сказала, што Гары Потэр у сучасным свеце чытачу куды больш карысны. Зразумела, я не была згодная з гэтай пазіцыяй, бо лічу, што кожны беларус павінен як мінімум знаёміцца з працамі таленавітых творцаў сваёй краіны. Тым больш што пра спадарыню Алексіевіч цяпер даведаўся ўвесь свет. Мы не абавязаны любіць «рэкамендаваныя» кнігі і зачытвацца імі, але нам трэба ведаць творчасць айчынных пісьменнікаў, калі мы ставімся з павагай да сабе. Таму ўсё ж існуе, павінен існаваць спіс кніг, абавязковых для прачытання кожным.

Постмадэрністы сцвярджаюць, што ўсё ўжо прыдумана / напісана / выканана і справа сучаснага чалавека — гуляць з формай і зместам. Але я ведаю тое, што яшчэ не ўвасоблена і, магчыма, не будзе вынайдзена ніколі. Гэта твор, які выклікаў бы аднолькавую, адназначную рэакцыю і быў бы даспадобы кожнаму. І гэта добра, што такая ідэя застаецца на ўзроўні ўтопіі, бо кожны чалавек — асаблівы і нам усім не варта думаць «пад капірку».

# Кранальная французская трагедыя




«Сабор Парыжскай Божай Маці» пяра французскага пісьменніка Віктора Гюго амаль два стагоддзі з захапленнем чытаюць ва ўсіх канцах зямлі. Гісторыя пра каханне, нянавісць, спачуванне, дабрыню, адзіноту і моцныя чалавечыя страсці не перастае быць цікавай і кранаць чалавечыя сэрцы. Прыгожая маладая цыганка, ахоплены палкім каханнем адзінокі святар і брыдкі гарбун. У кожнага лёс трагічны, жыццё цяжкае, пачуцці неўзаемныя. Яны — асобы, не падобныя на іншых. Я вельмі палюбіла кожнага, і кожны мне нешта даў.

Цыганка Эсмеральда — вулічная танцоўшчыца, якая жыве ў Двары Цудаў, прытулку адрынутых. Дзіця волі, яна жыве бесклапотна, як птушка. Эсмеральду любяць за дабрыню і спагадлівасць. Яе лепшы сябар — козачка Джалі, з якой яна выступае на вуліцах. За Эсмеральду я перажывала на працягу ўсяго рамана, а ў канцы сэрца проста разрывалася! Было страшна балюча чытаць пра яе маці, якая, не паспеўшы знайсці дачку, страціла яе. Я вельмі ўдзячная Віктору Гюго за тое, што ён стварыў такі цудоўна натхняльны вобраз: пад уплывам чытання я стала цікавіцца цыганскай культурай, вывучыла ўсе песні з мюзікла Notredame de Paris, навучылася танцаваць па-цыганску.

Самы злавесны герой гісторыі — святар Клод Фрало. І гэты персанаж, нягледзячы на ўсе яго адмоўныя ўчынкі і якасці, — мне дарагі. Я шкадую яго і захапляюся ім. Прызнанне Клода Эсмеральдзе ў цямніцы я перачытвала шмат разоў, і заўсёды сэрца сціскалася, а па скуры беглі мурашкі. Я б вельмі хацела, каб Эсмеральда забыла гэтага пагарджанага капітана Феба і пакахала святара: гэтым яна выратавала б усіх.

Квазімода. Ён вырадак, і за гэта яго ненавідзяць. Ім пагарджаюць, з яго здзекуюцца, яго лічаць «ажыўшай хімерай». І ніхто, нават Эсмеральда, не здолеў пад брыдкай абалонкай разглядзець добрую душу.

Усё жыццё Квазімода адказваў нянавісцю на нянавісць, і было толькі два чалавекі, якіх ён любіў, — Клод Фрало і Эсмеральда. Калі ён быў маленькім, «добрыя людзі» хацелі спаліць яго, а малады святар пашкадаваў дзіця і ўзяў да сябе. Гарбун быў верны архідыякану як сабака, ён аддаў бы жыццё за свайго выратавальніка, які яго выгадаваў і паставіў званаром у Сабор Парыжскай Божай Маці.

У мяне ці хопіць слоў, каб апісаць свае пачуцці да гэтага персанажа. Першае і апошняе каханне ў жыцці ўзвысіла душу няшчаснага. Квазімода ведаў, што Эсмеральда ніколі яго не пакахае, але яго пачуццё было такім чыстым, што ён быў шчаслівы проста бачыць яе…

Гэтая кніга змяніла мяне, прымусіла пра многае падумаць. І мне захацелася, каб гэты шэдэўр прачытала як мага больш людзей. Таму і напісала ў «Бярозку».

***Кацярына Ігнатовіч***
***11 «Б», СШ № 3, Стоўбцы***

# Як вы праходзіце праз тэрмінал?

Уявіце сабе, што пакуль вы ляціце ў самалёце на доўгачаканыя амерыканскія вакацыі, у вашай роднай (але насамрэч выдуманай) краіне адбываецца рэвалюцыя, і яна юрыдычна перастае існаваць. Такім чынам, па прылёце ў Нью-Ёрк вы даведваецеся, што не маеце грамадзянства. Зусім. Ніякага. А разам з тым і візы, і дазволу на вяртанне дадому, і ўвогуле абсалютна ніякіх правоў. Дарэчы, англійскай мовы вы таксама не ведаеце.

Страшна, праўда? На жаль, так сталася з героем фільма «Тэрмінал» Віктарам Наворскі. «Вы чалавек, у якога больш няма краіны. Ваша амбасада закрыта. Мы нічым не можам дапамагчы. Вам прыйдзецца жыць у аэрапорце, пакуль сітуацыя не нармалізуецца і мы не знойдзем для вас іншай магчымасці вярнуцца дадому». Гэта гучыць вельмі сумна. А для галоўнага героя — незразумела. Згадайце, ён жа мовы не ведае!..

Жудасна, так? Шкада, але так сталася. Да таго ж, упершыню зусім не з героем Тома Хэнкса, а з рэальным чалавекам — Марханам Карэмі Насэры, грамадзянінам Ірана. Там, канешне, гісторыя пачыналася інакш — у няшчаснага проста ўкралі партфель з дакументамі, і ён не змог пакінуць французскі аэрапорт імя Шарля дэ Голя да таго часу, пакуль усё не было адноўлена. Але асноўная ідэя тая ж — чалавек вымушаны вучыцца жыць у закрытым свеце. Абмежаваным, жорсткім, несправядлівым, населеным рознымі людзьмі, але ў адзіным магчымым на дадзены момант.

Нейк не па сабе, ці не так? Так, так сталася… з усімі намі. І гэта адбываецца кожны дзень. Стывен Спілберг ужо далёка не першы майстра, які паспрабаваў правесці аналогію нашага штодзённага свету са светам закрытым і абмежаваным, у якім, нягледзячы на закрытасць і вузкасць, працуюць тыя ж законы, што і ў паўсядзёнцы. Абставіны, цяжкасці, патрэбы — і мы пачынаем шукаць выйсця, праглядаючы сотні шляхоў і абіраючы з іх адзін. Людзі злыя, людзі добрыя, людзі абыякавыя — сярод іх мы шукаем і знаходзім сяброў, падтрымку, каханне. Несправядлівасць, сум, стомленасць — яны ходзяць у парах з задавальненнямі і радасцямі, але і тут мы вучымся памяншаць іх гучнасць і адкладаць на апошнюю чаргу. І кожны дзень мы пытаемся: а што будзе далей? Ці будзе маё заўтра больш дасканалым, чым сёння?

…Віктар Наворскі працаваў і наладжваў адносіны з персаналам. Крыху падвучыў мову і абсталяваў сабе прыстанак. Але кожны дзень ён падыходзіў да візавага тэрмінала і падаваў дакументы, на якіх кожны дзень ставілі чырвоную пячатку: «У атрыманні візы адмоўлена». Але ён падыходзіў. З усмешкай, з надзеяй, з сумам ці нават абыякава, але ён падыходзіў, пакуль на яго бланку не з'явіўся зялёны адбітак: «Віктар, вы можаце выйсці ў горад. Welcome to the USA!»

Вы можаце здзівіцца, але пасля месяцаў, праведзеных у аэрапорце, ён не паляцеў адразу дадому, а сапраўды накіраваўся ў Нью-Ёрк. Чаму? Ха, не проста вандраваць ён ехаў, але маючы даволі канкрэтную мэту. Якую? Пакіну адказ на пытанне за вамі.

*Пра 5 фільмаў, з якімі не засумуеш у Дзень усіх закаханых, чытайце ў «Дамашнім кінатэатры» ў праекце «Бярозка плюс» на www.maladost.lim.by/berezka*

***Паліна Грыб***

# Туды не ідзі!


Аркаша, прывід

Страшныя гісторыі з нумара ў нумар

Шасцікласнік Федзя паехаў на два тыдні ў зімовы санаторый, падлячыцца пасля працяглага бранхіту. Там яго пасялілі ў адзін пакой з хлопцам, якога звалі Вадзім.

Вадзім быў дзіўны: бледны і знерваваны, з цёмнымі кругамі вакол вачэй. Федзя вырашыў, што ён хварэе, і пасаромеўся распытваць падрабязнасці. Але бліжэй да ночы Вадзім сам пачаў гаварыць.

— Я баюся спаць! — прызнаўся ён. — Кожны раз, калі тушу святло, адчуваю, як яна на мяне глядзіць.

— Хто «яна»? — не зразумеў Федзя.

— Медсястра! Гэта адна і тая ж медсястра, яна заўсёды дзяжурыць па начах. Я заўважыў, як яна мяне разглядае праз шкло ў дзвярах, і з той пары заўсёды раблю выгляд, што сплю. Мне здаецца, яна хоча, каб я на яе глянуў, а я баюся. Я назіраю за ёю паціху: яна сыходзіць перад світаннем.

Федзя паціснуў плячыма: яму здалося, што ў Вадзіма багатая фантазія. Ну, зазірае ў палаты дзяжурная медсястра, і што? Проста хоча пераканацца, што дзеці спяць, а не гуляюць з мабілкамі.

У тую ноч Федзя спакойна заснуў, а калі раніцай прачнуўся, суседа ў палаце не было.

Вадзім і на абед не з'явіўся. Было відаць, што персанал санаторыя заклапочаны: тэлефанавалі ў горад бацькам, не датэлефанаваліся. Прыязджалі з міліцыі: Федзю падрабязна распыталі, але той нічога толкам сказаць не мог, а пра начныя страхі Вадзіма распавядаць не палічыў патрэбным.

Гэта ўсё было ўдзень. А з надыходам вечара Федзя адчуў трывогу. Бліжэй да ночы ён ужо шкадаваў, што не расказаў нікому пра сказанае Вадзімам. Засынаць у пустой палаце, аднаму аказалася вельмі няўтульна. Недзе з паўгадзіны Федзя ляжаў з заплюшчанымі вачыма і прыслухоўваўся да шоргату ў калідоры. Заснуць не атрымалася. Раптам яго быццам токам працяла: ён адчуў на сабе нечы пранізлівы позірк! Расплюшчыў вочы: праз шкло дзвярэй у палату зазірала жанчына ў шапачцы медсястры.

Федзя сеў на ложку:

— Што вам? — спытаў, ледзь стрымліваючы жаданне закрычаць ад страху.

— Хадзем са мной, — адказала жанчына. — Да цябе прыйшоў сябар.

Федзя вельмі здзівіўся, але распытваць пабаяўся. Проста ўставіў ногі ў тапкі, накінуў халат і выйшаў.

> Заканчэнне страшнай гісторыі чытайце ў праекце «Бярозка плюс» на www.maladost.lim.by/berezka



# Загадкавыя і казачныя сірэны

*Працяг. Пачатак у № 1.*

Да наступнага занятку мне прыйшлося падрыхтавацца вельмі сур'ёзна, каб не падмануць чаканні вучняў. І нездарма, бо ў гэты раз наведвальнікаў было рэкордна многа. Мабыць, юннаты заінтрыгавалі сваіх сяброў абяцаннем цікавых гісторый. І я працягнуў аповед:

— Вось некаторыя з гэтых «міфалагічных» жывёл атрада Сірэн, якія пасвіліся ў неглыбокіх, парослых травой балотах ў эпоху палеацэна, каля 60 мільёнаў гадоў таму. Гэтыя траваедныя жывёлы паступова станавіліся ўсё больш прывязанымі да вады, іх самым далёкім продкам лічыцца эатэрый (наземная хобатная жывёліна-выкапень). Іх рэшткі выявілі амерыканскія палеантолагі на Ямайцы. Гэтая знаходка дапамагла аднавіць эвалюцыйны ланцужок трансфармацыі насельнікаў сушы ў марскіх жыхароў. Шкілет дапатопнай жывёлы меў даўжыню больш за 2 метры, цела ж яго, па разліках навукоўцаў, павінна было важыць не менш за 100 кілаграмаў і мець магутныя, добра развітыя канечнасці. Пры гэтым анатамічныя асаблівасці дазвалялі істоце жыць у вадзе. Па адной з навуковых гіпотэз марскія каровы накіраваліся з сушы ў ваду па новае харчаванне — марскую траву, і паступова сталі праводзіць там большую частку жыцця. З часам у сірэн развіліся плаўнікі, а іх заднія ногі замяніліся хвастом.

Гэтыя жывёлы атрада сірэн (Sirenae) складаюць тры сямействы: марскія, або стэлеравы каровы (Hydrodamalis), ламанціны (Trichechidae) і дзюгоні (Dugongidae).

На жаль, наша планета беззваротна страціла некалькі відаў сірэн. Так, напрыклад, стэлерава карова (яна ж капусніца), адкрытая экспедыцыяй Вітуса Берынга ў 1741 годзе ў раёне Камандорскіх выспаў, была цалкам знішчана ўжо да 1768 года. Вінаваты яе смачнае мяса і адсутнасць страху перад чалавекам. А яшчэ, відаць, яна не ўмела ныраць. Фатальны лёс быў таксама прадвызначаны невялікім арэалам пражывання і малой колькасцю — каля дзвюх тысяч асобінаў. Стэлерава карова была вельмі буйной жывёлай. Сярод тых, хто жыве ў вадзе, саступала па памерах толькі кітападобным. Вагой яна была больш за пяць тон, а ў даўжыню дасягала сямі-васьмі метраў.

У цяперашні час сірэны насяляюць мелкаводдзе, жывуць паблізу марскіх берагоў і ў вусцях трапічных рэк, таму што водарасці, якімі яны сілкуюцца, на вялікай глыбіні не растуць. Як і кітападобныя, яны праводзяць у вадзе ўсё жыццё і на бераг ніколі не выходзяць. Нямала рысаў лучыць іх з кітамі: буйное цела абцякальнай формы і адсутнасць задніх канечнасцяў (іх рэшткі немагчыма знайсці нават у шкілеце). Спіннога плаўніка, як у некаторых відаў кітоў, у сірэн няма. Хвасты плаўнік, які дапамагае жывёлам перамяшчацца, мае плоскую форму.

Сірэны — масіўныя жывёлы з цыліндрападобным целам даўжынёй 2,5—5,8 м (у вымерлай марской каровы — 7,2—10 м). Маса да 650 кг (у марской каровы — да 4 т).

Сірэны — адзіныя траваедныя марскія млекакормячыя.

Нешматлікія віды атрада сірэн знаходзяцца пад пагрозай знікнення, дзюгоні нават занесены ў Міжнародную Чырвоную кнігу. Справа ў тым, што, па-першае, сірэн актыўна нішчылі дзеля іх мяса і тлушчу, па-другое, размнажаюцца гэтыя млекакормячыя вельмі павольна, па-трэцяе, усе сірэны неагрэсіўныя і неасцярожныя.

***У воблаку сярэдняга памеру змяшчаецца не менш чым 200 тон вады. Прыкладна столькі важаць 74 сланы.***

У апошні час паляванне на сірэн у большасці краін, дзе водзяцца гэтыя жывёлы, значна абмежавана. Тым не менш чалавек вельмі часта аказваецца вінаваты, хоць і ўскосна, у гібелі сірэн. Напрыклад, у Аўстраліі шмат дзюгоняў гіне, патрапіўшы ў сеткі, устаноўленыя ўздоўж узбярэжжа для абароны ад акул. У Фларыдзе ламанціны часта гінуць ад удараў грабнымі вінтамі прагулачных яхт, маторных лодак і катараў ці трапляюць у пасткі шлюзаў у вусцях рэк. Амаль усе ламанціны фларыдскай папуляцыі носяць на целе шнары ад грабных вінтоў. Існуюць нават спецыяльныя прытулкі для ламанцінаў — месцы, дзе ўсім маторным лодкам, катарам і яхтам загадана рухацца толькі на халастым ходзе. Але прадпісанне гэта часта ігнаруецца.

Марская карова выкормлівае дзіця малаком пад вадой. Добра развітыя саскі, размешчаныя на грудзях, уводзілі ў зман маракоў, якія прымалі жывёл за русалак.

Закон аб ахове гэтых жывёл, прыняты яшчэ ў 1893 годзе, неаднаразова аднаўляўся. У апошні час закон забараняе адстрэл, пераслед і адлоў ламанцінаў, продаж прадуктаў з іх мяса. Тым не менш забарона вельмі часта парушаецца.

Між тым ламанціны могуць аказваць людзям вялікую дапамогу. Іх, напрыклад, выкарыстоўваюць як пражэрлівых праслінаедных жывёл для ачысткі вадаёмаў і каналаў ад вадзянога гіяцынта, які літаральна апанаваў рэкі тропікаў.



Ламанціны вельмі цеплалюбівыя стварэнні. Калі тэмпература вады апусціцца ніжэй 8 градусаў, яны асуджаныя на гібель. Таму ўзімку яны грэюцца ў цёплых плынях, збіваючыся ў буйныя зграі. У гэтых вельмі міралюбівых жывёл акрамя чалавека ёсць і натуральныя ворагі — кайманы ў рэках і акулы ў морах. Самымі блізкімі сваякамі для ламанцінаў могуць быць кіты, а агульным продкам — наземныя свінні.

Для дзюгоняў больш блізкім сваяком з'яўляецца не кіт, а слон, хоць іх адносяць да няжвачных траваедных. На думку навукоўцаў, у гэтых прадстаўнікоў атрада сірэн ў чэрапе захавалася шмат падабенства з прымітыўнымі хобатнымі — пра гэта кажуць біўні дарослых самцоў. Некаторыя эвалюцыяністы мяркуюць, што сланы і дзюгоні маюць агульнага воднага продка.

Цікава, што харчаванне дзюгоняў залежыць не ад светлавога дня, як ва ўсіх жывёл, а ад марскіх прыліваў і адліваў. Калі прыходзіць час ежы, дзюгоні прыплываюць да каралавых рыфаў і водмеляў на глыбіню 1,5 метра па любімы ласунак — водарасці. Упадабаны спосаб харчавання — выкопванне багатых вугляводамі карэнішчаў: гэтым дзюгоні збольшага нагадваюць свіней. Мужчынскія асобіны можна адрозніць па «іклах».

Мозг дзюгоняў меншы і ўладкаваны прасцей, чым у кітоў і дэльфінаў, што звязана з адсутнасцю рэхалакацыйнага апарату. Дзюгоняў выдаюць чырыканне, трэлі і свісты, якія сігналізуюць аб небяспецы або дапамагаюць падтрымліваць кантакт маці і дзіцяці. Дзюгоні вельмі любяць падарожнічаць — у гэтым яны падобныя да людзей. Імкненне да змены месцаў прымушае гэтых неверагодных жывёл пераадольваць да тысячы кіламетраў без прыпынкаў. Дзюгоні не мігрыруюць, а проста падарожнічаюць па сваёй волі, у адзіночку ці групамі, рассякаючы хвалі сваімі сталёвымі тарпедападобнымі целамі.

А цяпер, паважаныя чытачы часопіса «Бярозка», вам трэба будзе адказаць на пытанне, якое задалі мне дзеці на перапынку: чаму жывёлы з атрада сірэн не ўдзельнічаюць у шоу дэльфінарыяў? Пазначыць трэба тры прычыны. Поспеху ўсім. Пераможцаў чакае сувенір з выспы Берынга — кавалачак рабра стэлеравай марской каровы. Чакаем вашых лістоў!

***Аляксей Мухля***
***кіраўнік клуба экспедыцый «Выток»***
***alexej-nam@mail.ru***

Конкурс!

# Святыні Беларусі: пакуты і перамогі

На працягу васьмі гадоў Інстытут тэалогіі БДУ ладзіць конкурсы для школьнікаў з мэтай іх духоўнага станаўлення і раскрыцця творча-даследчыцкага патэнцыялу. Пераможцы разам з арганізатарамі наведваюць музеі Беларусі — кожны раз новы. Апошнім такім месцам-узнагародай стаў Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, паход у які натхніў на сёлетні дэвіз конкурсу: «Святыні Беларусі: пакуты і перамогі».

«Калі мы са школьнікамі хадзілі па музеі, усе гэта заўважылі: ніякіх экспанатаў, які б расказвалі пра крыніцы духоўнага подзвігу беларускага народа, няма. А зразумела ж, што крыніца любога духоўнага подзвігу — Бог, — гаворыць старшыня журы конкурсу, начальнік аддзела па сувязях з грамадскасцю і інфармацыйна-аналітычнай рабоце Інстытута тэалогіі БДУ Алена Шымбалёва. — Зразумела, што музей фарміраваўся ў часы, калі панаваў атэізм. Таму на ўсё, што звязана з духоўным подзвігам, глядзелі як на ідэалагічна нявытрыманае».

Вось і вырашана ў якасці сёлетняй тэмы конкурсу ўзяць духоўныя подзвігі простых беларускіх людзей, здзейсненыя імі на працягу ўсёй гісторыі нашай краіны.

«Калі наспявае пагроза знешняя, людзі пачынаюць бачаць крыніцу ратавання ўнутры сябе. І вельмі важна, каб тыя, хто будзе абараняць нашу краіну, сфарміравалі ў сваіх душах стрыжань», — адзначыла Алена Шымбалёва.

Многія і не ведаюць, якія людзі побач з імі, як яны жывуць і які подзвіг здзейснілі. Каб актывізаваць пошукі герояў, каб удзельнікі конкурсу маглі вызначыцца з арыенцірам, былі распрацаваны два напрамкі: даследчыцкі і літаратурны. Да ўдзелу ў літаратурным конкурсе прымаюцца эсэ, казкі, вершы, аповесці і апавяданні. Даследчыцкія работы — ад апісання гісторыі сям'і да краязнаўчых, пошукавых даследаванняў.



«Галоўнае, што мы імкнёмся атрымаць у якасці выніку, — прырост ведаў, — падзяліўся член журы конкурсу, старшы навуковы супрацоўнік аддзела ваенна-франтавой гісторыі Музея гісторыі Вялікая Айчыннай вайны Сяргей Клюцкі. — Ніякая гуманітарная праграма не павінна імкнуцца да ўтылітарнасці ў сваіх інтарэсах. У першую чаргу яна звязана з выхаваннем чалавека».

Сяргей Вячаслававіч чакае ад удзельнікаў конкурсу работ, у якіх «гісторыя аднаго чалавека — гэта гісторыя вялікай колькасці людзей, гісторыя краіны». Удзельнікамі могуць быць знойдзены рэчы, якія, магчыма, прэтэндуюць на статус «музейных рэчаў». Ці чаму б не заняцца даследчыцкай работай у якасці патэнцыйных сацыяльных гісторыкаў або гісторыкаў культуры. Магчымыя таксама стварэнне (сумесна з настаўнікамі) педагагічных праграм, правядзенне тэматычных экскурсій, валанцёрскі ўдзел у жыцці музея.

Па назве конкурсу зразумела, што арганізатары натхняюць школьнікаў звярнуць увагу на мясціны, дзе яны жывуць. Бо існуе шмат важных рэчаў, якія з-за жыццёвых акалічнасцей адыходзяць у нябыт. «Хацелася б, каб конкурс дазволіў знайсці месцы святыняў, прасякнутыя гісторыямі, праз якія выяўляецца веліч душ нашых людзей. Таму што, па вялікім рахунку, вера была асноўным, што штурхала людзей на выдатныя ўчынкі», — распавёў прадстаўнік аргкамітэта конкурсу, кіраўнік Сінадальнага паломніцкага аддзела Беларускай праваслаўнай царквы айцец Аляксандр (Шырытон). Атрымліваецца, што конкурс — гэта магчымасць адзначыць: беларускае грамадства цікавіцца гісторыяй, а расповед аднаго чалавека пра свае родныя мясціны можа быць не звычайным меркаваннем па тэме, а адкрыццём ці новым скарбам беларускага краю. Даследчыцка-літаратурная скіраванасць конкурсу дазваляе расказаць і пра духоўныя пошукі людзей: сваіх, родных, былых незнаёмцаў, асоб, якія сёння не заўважаны. «Конкурс — гэта магчымасць адкрыць дзівосныя падзеі. Бывае, што мы сутыкаемся з падобнымі сітуацыямі, але калі ў чалавека няма духоўнага вопыту, ён не можа для сябе тую ці іншую падзею патлумачыць. Чым больш мы даведваемся пра тое, што вакол нас адбываецца, тым больш значнымі здаюцца дзіўныя падзеі промыслу Божага,

тым больш і вера ўмацоўваецца», — адзначыў айцец Аляксандр (Шырытон).

Асноўны крытэрый адбору работ — змест. Арганізатары знарок не стваралі фармальных зачэпак для адсейвання матэрыялаў. А конкурсная форма была абрана як «самая натуральная, якая запрашае тых, каму цікава. Яна кранае дзяцей, у сэрцах якіх прысутнічае іскра творчасці, жаданне штосьці даследаваць. Гэта форма добраахвотнага супрацоўніцтва», — упэўнена Алена Шымбалёва.

*Работы прымаюцца ў электронным выглядзе на скрыню* ***konkurs@theology.bsu.by*** *з паметкай «Літаратурны конкурс» да* ***4 красавіка 2016 года****. Матэрыялы літаратурнай скіраванасці ў любым жанры могуць дасылацца ўсімі жадаючымі ва ўзросце ад 8 да 18 гадоў, даследаванні чакаюцца ад аўтараў 14—18 гадоў.*

***Юля Ваўчок***










# Сапраўдны скарб

Жыў на свеце адзін чалавек — добры, сумленны ды працавіты. І меў трох сыноў. Перад смерцю паклікаў іх да сябе, каб даць бацькоўскую параду, як жыць на зямлі далей. Дастаў гаршчок з залатымі манетамі, што назапасіў цяжкай працай, і сказаў:

— Падзяліце гэтыя манеты на чатыры роўныя часткі. Па адной вазьміце сабе, каб пачаць уласную справу, а чацвёртую занясіце ў царкву на памінанне маёй душы. Жывіце дружна і не забывайце пра Бога.

Старэйшыя сыны, якія лічылі сябе разумнейшымі ды спрытнейшымі, падзялілі бацькаў скарб на дзве часткі. Малодшаму далі толькі адну манетку, няцотную, бо падзяліць яе не змаглі, як ні біліся. А пра царкву нават і не ўспомнілі.

Багата зажылі старэйшыя браты. Пабудавалі сабе вялізны дом, накуплялі ўсялякага ўбрання, гасцей пачалі запрашаць, баляваць з імі.

***Калі вы будзеце нерухома стаяць на экватары, вы на самай справе будзеце рухацца разам з Зямлёй з хуткасцю 1600 км у гадзіну.***

А малодшы брат застаўся ў старой бацькоўскай хаце і доўга думаў, што рабіць з манеткай. Хоць адна, але ж залатая. Урэшце знайшоў ён, як выканаць бацькаў наказ.

Непадалёк ад ягонай сядзібы раскінулася здзічэлае поле, гаспадар якога даўно памёр. Некалькі дзён з ранку да цямна, а то пры святле месяца хлопец апрацоўваў тое поле. Пасля купіў за манету яблыневых саджанцаў ды пасадзіў іх там. З рачулкі, што працякала паблізу, насіў ваду ды паліваў маладыя дрэўцы, пакуль яны не прыжыліся.

Тыя дрэўцы хутка пайшлі у рост. Пэўна, Бог дапамагаў малодшаму з братоў выканаць задуму. Гады праз тры на галінках з'явіліся першыя яблыкі: прыгожыя, духмяныя, сакавітыя. Напярэдадні свята Праабражэння Гасподняга хлопец напоўніў тымі яблыкамі два вялікія кашы і аднёс у царкву асвяціць. Пасля частаваў пладамі ўсіх, каго сустракаў. І пра братоў не забыўся — адаслаў ім па чатыры яблыкі, самыя вялікія.



А ў хуткім часе ў старэйшых братоў здарылася няшчасце: весяліліся яны з гасцямі ды не заўважылі, як успыхнуў пажар. Усё агонь спапяліў: і дом вялізны, і багацце. Самі ледзьве ўратаваліся!..

Прыйшлі старэйшыя браты ў хаціну малодшага, пачалі прасіцца, каб дазволіў пажыць. Той гасцінна братоў сустрэў, пачаставаў, чым мог, у тым ліку і спелымі салодкімі яблыкамі.

І тады старэйшыя браты заплакалі. І зразумелі раптам, што галоўны бацькаў скарб не ў золаце быў, а ў словах яго: «Жывіце з Богам!» Сумленна, значыцца.

З таго моманту браты сталі жыць разам, дружна і ладна. Збудавалі вялікую новую хату, утрох значна пашырылі сад, пасадзілі там шмат новых яблынь. Штогод той сад патанаў у веснавой квецені, а ўвосень разносіў па наваколлі цудоўны водар спелых пладоў. На радасць Богу і людзям.

***Дар'я Ліхтар***
***8 клас, Вялічкавіцкая СШ, Салігорскі раён***

# Як Прылессе стала Мацвееўцамі



Хлопчыка Мацвея з маленства цягнула да кузні, яму здавалася, што ён нават адчувае пах жалеза. Бацькі былі не супраць яго працы ў кузні, вось толькі грошай яму каваль не плаціў, апраўдваўся тым, што хлопчык пакуль толькі вучыцца. З цягам часу хлопец Мацвей так пераняў майстэрства кавальскай справы, што мог не горш за самога каваля выкаваць сякеру ці рыдлёўку. Так і застаўся хлопец у кузні бясплатна працаваць, а потым і сам стаў адмысловым кавалём. Прыязджалі да Мацвея нават здалёк, бо пайшлі чуткі, што коні, якіх гэты каваль падкоўвае, самыя працавітыя. Плату за сваю работу каваль, як і раней, не браў і быў удзячны людзям, калі яны яму прыносілі кавалак сала ці акраец хлеба. А людзі, якія ехалі да каваля, пыталіся: ці не тут вёска Мацвея? Вось так вёска, якая раней называлася Прылессе, стала Мацвееўцамі.

***Іна Парфяновіч***
***6 «В» клас, гімназія № 2, Ваўкавыск***

# Пагараны не гарэлі

Я была ўпэўнена, што нешта ведаю пра паходжанне маёй любімай вёскі Пагараны. Але аказалася, што гэта проста мая фантазія. Зараз я вам растлумачу. Сама назва вёскі гаворыць пра тое, што яна калісьці, у даўнія часы гарэла. Я так і спыталася ў сваёй бабулі: «У якім годзе ці стагоддзі гарэла вёска Пагараны?» Але адразу ж, па твары бабулі, зразумела, што сказала нешта не тое. Зусім іншае паданне існуе пра паходжанне назвы Пагараны.

Быццам бы, людзі, якія раней жылі ў гэтай вёсцы, выкопвалі сабе для захоўвання агародніны шмат склепаў: адзін склеп для бульбы, другі для рэпы, трэці для буракоў. А зямлю непатрэбную, таму што яна была жоўтай, вывозілі потым за вёску. Так з усіх бакоў вёскі і з'явіліся невялікія горкі з пяску, але потым гэтыя горкі пачалі самі па сабе з кожным годам рабіцца ўсё вышэйшымі і вышэйшымі. У вёсцы жыла варажбітка, і ўсе думалі, што гэта яе справа, таму што яна не любіла вецер, ёй падабалася, калі дрэвы ціха стаяць.

Праз некаторы час гэтыя горкі зараслі травой і кустамі, а потым вецер прынёс туды насенне елкі і сасны, а вёску пачалі называць Пагараны.

Яны і цяпер вакол вёскі, гэтыя горкі, і растуць на іх лекавыя травы, шмат там улетку ягад і грыбоў. На гэтых горках раней дзеці ладзілі розныя гульні, і не толькі зімой, калі можна на санках ці лыжах з'язджаць з гары. На адной гары стаяла кола з жэрдкамі, на якіх можна было кружыцца, як на каруселі. Але ўсё гэта было раней…

Я люблю вёску Пагараны, і мне баліць сэрца, калі я бачу забітыя дошкамі дзверы многіх вясковых хат.

***Эліна Вялесік***
***8 «В» клас, гімназія № 2, Ваўкавыск***

# Вундэркінды ці зубрылы?




***Падслухоўваць нядобра, але бывае вельмі карысна. Тым больш, калі размова ў настаўніцкай ідзе пра тваіх разумненькіх аднакласнікаў. Сваім меркаваннем пра вундэркіндаў дзеляцца педагогі Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Цэнтральнага раёна Гомеля Алена Віктараўна Грыцэнка, метадыст, і Людміла Юр'еўна Бордак, культарганізатар. Размова запісваецца, як абавязвае рубрыка, інкогніта.***

***А.В.:*** — На мой погляд, выдатнік — гэта не проста навучэнец сярэдняй школы або гімназіі, які вучыцца на адны «дзявяткі» і «дзясяткі». Выдатнік — гэта дзіця, якое імкнецца быць лепшым не толькі ў вучобе, але і ў захапленнях, і ў дапамозе старэйшым. Самае галоўнае — быць добрым, адказным, неабыякавым чалавекам, а адзнакі — гэта другараднае.

***Л.Ю.:*** — Яны любяць, калі іх увесь час хваляць. Выдатнікі — гэта, як правіла, тыя дзеці, якім надта падабаецца быць у цэнтры ўвагі. Яны заўсёды дасягаюць пастаўленых мэт, але пры гэтым шмат патрабуюць. У іх моцна развітае пачуццё ўласнай патрэбнасці. Амаль у кожнага выдатніка ёсць сваё меркаванне, якое не супадае з меркаваннем навакольных. Многія з іх займаюць лідарскія пазіцыі і зацята адстойваюць сваё гледжанне, сваю праўду. Яны не любяць мірыцца першымі.

***А.В.:*** — Яны здольныя прыйсці на дапамогу, але ў большасці выпадкаў, як мне здаецца, толькі тады, калі бачаць у гэтым выгаду для сябе. Выдатнікі баяцца заставацца ў адзіноце. Сапраўдныя выдатнікі — гэта тыя, хто ставіць мэту з надзеяй яе дасягнуць, імкнуцца да той пазіцыі, да якой іх прывучалі з самага дзяцінства. З выдатнікаў выходзяць вельмі добрыя медыцынскія работнікі і выкладчыкі. Выдатнікаў называюць завучкамі і акулярыкамі, таму што яны шмат чытаюць. Яны маюць вялікі слоўнікавы запас і шырокія веды на самыя разнастайныя тэмы. Акрамя таго, яны маюць патрэбу ў падтрымцы. Калі іх хваліць, то адзнакі будуць яшчэ лепшымі. Калі зрабіць заўвагу — у іх выпрацоўваецца комплекс.

***Л.Ю.:*** — Сярод выдатнікаў мала шчаслівчыкаў — тых, хто ўдала ўладкоўваецца ў жыцці, атрымлівае добрую прафесію. Шмат каму з выдатнікаў зайздросцяць, таму што ім «усё даецца лёгка». На самай справе, быць выдатнікам вельмі няпро-



ста, таму што гэта велізарная праца. Хто любіць працаваць, той і дасягае вяршыняў. Такіх людзей адзінкі: камусьці не даецца, хтосьці лянуецца, хтосьці проста баіцца.

***А.В.:*** — У жыцці выдатнікі рэдка дамагаюцца чагосьці высокага менавіта таму што, калі ты вучышся ў школе або ўніверсітэце, то спачатку працуеш на дзённік ці залікоўку, потым, у старэйшых класах і на старэйшых курсах, ужо яны, дзённік ці залікоўка, працуюць на цябе. Настаўнікі прывыкаюць, што ты выдатнік, таму і ацэнкі ставяць вышэйшыя, нават калі адказ быў «не вельмі». А вось калі спатрэбіцца праяўляць самастойнасць… Такія людзі «ламаюцца».

***Л.Ю.:*** — У брата майго мужа, які вучыўся ва ўніверсітэце, рана з'явілася сям'я — у 17 гадоў, таму яму трэба было не столькі сядзець над падручнікамі, колькі думаць, дзе грошы зарабіць. Тыя прадметы, якія ён разумеў, ішлі лёгка, астатнія ён прапускаў міма сябе. У выніку жыццёвыя праблемы навучылі яго знаходзіць выйсце з любой сітуацыі. А дзяўчынкі і хлопчыкі, якія вучыліся добра, без памяці зубрылі, выконвалі розныя заданні, атрымлівалі добрыя адзнакі, у рэальным жыцці былі бездапаможныя. Аднакласніца-выдатніца, якую адправілі працаваць інжынерам у кацельню, там і знікла. Яна больш нідзе не працавала. Чалавек асеў — і ўсё, перспектыў ніякіх.

***А.В.:*** — У Беларусі ёсць прадзюсар Анатоль Шаўцоў, у яго шмат музыкаў, свая прадзюсарская студыя. Дык вось, Толік гэты не хапаў зорак з неба, не спрабаваў зубрыць і выбіваць ацэнкі. У выніку дасягнуў значна большага, чым тыя, што атрымалі «чырвоныя» дыпломы.

***Л.Ю.:*** — Быць выдатнікам — гэта не значыць атрымліваць добрыя адзнакі, быць выдатнікам — значыць мець уяўленне аб тым прадмеце або сферы, у якой ты вучышся і якая будзе неабходная табе на працягу жыцця, разумець сутнасць сваёй прафесіі.

***А.В.:*** — Многія выдатнікі — зубрылкі: «адгэтуль дагэтуль» вывучыў, «адгэтуль дагэтуль» распавёў, а разумення сутнасці — няма. Гэта вельмі дрэнна.

***Л.Ю.:*** — Выдатнікі схільныя да стрэсаў. Таму што калі ты заўсёды вучышся добра, а тут табе ўзялі і паставілі «сем», то гэта сапраўды стрэс і падрыў псіхікі. Але хвалявацца не трэба, таму што ацэнка — гэта толькі лічба, а тыя веды — захоўваюцца надоўга і абавязкова спатрэбяцца.

***4 тысячы гадоў таму ў Сібіры яшчэ жылі маманты. А ў Егіпце, Вавілоне, Індыі і Кітаі ў той самы час існавалі буйныя, развітыя цывілізацыі.***

***А.В.:*** — У нас ва ўніверсітэце таксама многія зубрылі, і калі атрымлівалі на экзамене 8 ці 7, кідаліся ў істэрыкі і вылівалі мора слёз.

***Л.Ю.:*** — Выдатнікам быць эмацыянальна цяжка. Таму, перш чым пераходзіць з катэгорыі «харашыст» у катэгорыю «выдатнік», трэба добра падумаць...

***Падслухаў Сяргей Грудніцкі***



# Інтэрв'ю з кумірам

*Як ёсць інтэрв'ю*

***У нашым горадзе Стоўбцы прайшоў канцэрт Тэа (Юрыя Вашчука), і я не магла не скарыстацца магчымасцю пагаварыць з вядомым беларускім спеваком, тэлевядучым, удзельнікам Еўрабачання.***

**— У адным інтэрв'ю вы згадалі, што ў дзяцінстве марылі займацца акцёрскай дзейнасцю. Ці ёсць такое жаданне цяпер?**

— Так, я хацеў быць акцёрам. І, шчыра кажучы, мне перыядычна прапаноўваюць здымацца, але, на мой погляд, ідэі, якія прапануюцца на разгляд, не вельмі цікавыя. Калі б з'явілася вартая прапанова, то я б, безумоўна, згадзіўся. То-бок, мне па-ранейшаму гэта цікава.

**— З кім з замежных выканаўцаў вы супрацоўнічалі?**

— З Русланам Аляхно, калі казаць пра расійскіх выканаўцаў. Хоць ён, хутчэй, беларускі артыст. Як і Наташа Падольская, з якой я таксама супрацоўнічаў. Як бачыце, тыя, каго мы называем замежнымі артыстамі, часта аказваюцца беларусамі. Канечне, у мяне ёсць ідэя рушыць і на Захад, і на Усход, і я збіраюся яе рэалізаваць.

**— Вашы прыхільнікі ці здзіўлялі вас калі-небудзь сваімі паводзінамі?**

— Ну, мяне здзіўляе той факт, што людзі могуць ездзіць на канцэрты, якія праходзяць некалькі тыдняў запар. Некаторыя едуць са сваіх мястэчак, каб чарговы раз трапіць на мой канцэрт. Для мяне гэта, па меншай меры, дзіўна. Наўрад ці так рабіў бы я сам, але, шчыра кажучы, такія паводзіны нават пахвальныя. Такую ж пахвалу можна выказаць і ўдзельнікам фан-клуба, які актыўна працуе ў сацыяльных сетках. Часам яны знаходзяць такія фатаграфіі... Я нават не магу ўспомніць, дзе і калі я так фатаграфаваўся! Хоць іх дзейнасць зручная для мяне ў выпадку патрэбы хутка знайсці інфармацыю. Наогул, прыхільнікі мне вельмі дапамагаюць. Невялікую, але якасную рэкламу яны заўсёды арганізоўваюць.

**— Вы з'яўляецеся аўтарам сваіх песень. Як рана вы пачалі пісаць вершы?**

— У трэцім класе ў мяне быў сшытак, у які я запісваў усе свае вершы. На ўроках літаратуры я іх чытаў. Потым у класе пайшла такая мода: аднакласнікі таксама пісалі вершы, і перад пачаткам урока мы ўсе чыталі адзін аднаму тое, што склалі.

А мой першы верш быў напісаны ў другім класе. Як цяпер памятаю: прачытаў яго бацьку. Ён мяне, вядома, пахваліў, але верш гучаў прыкладна так:

Стулья стоят,
Ленин идёт,
Видит: сидит
Мальчик-сирот.

Вось такі верш. Мой першы верш...

***Фізік Альберт Эйнштэйн мог стаць яшчэ і прэзідэнтам. У 1952 годзе яму прапанавалі пост прэзідэнта Ізраіля, ад якога ён адмовіўся.***

**— А хто ваш любімы паэт?**

— Шчыра, не магу сказаць. Я ўпэўнены, што мы павінны ведаць творы класікаў, увесь свет павінен ведаць іх. Выдатна, што ў школе ўсе мы маем магчымасць пазнаёміцца з класічнымі творамі. Але сказаць, што я апантаны аматар паэзіі, зачытваюся чыімі-небудзь вершамі, не магу. Кожны з класікаў варты, вершы кожнага можна чытаць пад розныя настроі. У адных — праўда жыцця, іншыя — лірычныя. Я наогул чалавек настрою.

**— Мне вядома, што ў дзяцінстве вы гралі на баяне. Што вам даў гэты інструмент?**

— Даў добрую левую руку. Я праўша, а левая рука таксама развіта нядрэнна. Пяць гадоў рухаць мяхі гэтага інструмента... Наогул, баян добра развівае плечавы сустаў. А яшчэ гэта мой першы музычны інструмент. Любоў да музыкі, у цэлым, была развіта менавіта ім.

**— Сёння (у дзень канцэрта) выпаў першы снег. Што вы адчулі, убачыўшы гэта?**

— Неверагоднае пачуццё! Я ехаў у машыне і, ўбачыўшы снег, захацеў выканаць песню, якая ў мяне асацыюецца з Калядамі. Песню, якую выдатна выканаў Фрэнк Сінатра (спявае):

Oh the weather outside is frightful
But the fire is so delightful
Since we’ve no place to go
Let it snow, let it snow, let it snow.

Такі вось настрой. Я заўсёды любіў снег. Пакуль не зрабіўся вадзіцелем. Калі кіруеш аўтамабілем, снег цікавіць цябе не так, як раней...

***

Тэа — выдатны чалавек. Я ўдзячная яму за цёплы прыём і цікавую размову. Сыходзячы, я падзякавала Юрыю і ад імя нашага Стаўбцоўскага раёна за тое, што ён падарыў нам такі канцэрт. Спадзяюся, што не апошні яго канцэрт у нашым горадзе.




Подпіс рэдактара

___

***Кацярына Ігнатовіч***
***11 «Б», школа № 3, Стоўбцы***

# Рэпартаж са свята смецця

*Рэпартаж і ёсць*

Усім прывітанне!

Я рэпарцёр бывалы і не па чутках ведаю, што калі ў школе збіраецца шмат заклапочаных людзей, пачынаецца штосьці цікавае.

Вось і сёння родная школа растрывожана шуміць пчаліным вуллем. Прычына хваляванняў мне знаёмая, таму не буду злоўжываць вашай цярплівасцю. Сёння ў дванаццатай школе горада Гродна стартуе новы экалагічны праект «Сэканд-АРТ». Мэты — прыцягнуць увагу мясцовага насельніцтва да праблем з адходамі, папулярызацыя паасобнага збірання смецця, а таксама дэманстрацыя магчымасцей другаснага выкарыстання непатрэбных рэчаў. І рэалізацыя адной з ідэй устойлівага развіцця — разумнае выдаткаванне.

Разважайце самі: для вырабу ўпакоўкі, адзення, цацак, кніг неабходна вялікая колькасць матэрыялаў і энергіі, а яшчэ вады (ні адна прамысловасць не абыходзіцца без вады), часу, працы і г. д. Пры другасным выкарыстанні матэрыялаў спажывец мае неабходныя рэчы, на якія выдаткавана ў некалькі разоў менш рэсурсаў. У асноўным гэта — справа творчасці і вольнага часу.

Думаю, працягваць тлумачэнне няма неабходнасці. А то я б мог… Але вернемся да нашай падзеі. Дык вось…

Добры дзень, дарагія чытачы часопіса «Бярозка»! Я вяду рэпартаж з эпіцэнтра падзей. У праграме Свята смецця: кірмаш непатрэбных рэчаў, майстар-клас «Адмысловыя рукі», выстава вырабаў з другаснай сыравіны «Сэканд-АРТ», інтэрактыўны стэнд «Зямля — планета смецця: твая пазіцыя» і шоу «Подыум “Сэканд-АРТ”».

Зазірнём спачатку на кірмаш і звернемся да арганізатараў:

— Што прадаяце?

Вучань у футболцы з лагатыпам SPARE:

— Ужываныя адзенне, цацкі, часопісы, дыскі, кніжкі. Усё найлепшай якасці. А кошты даволі нізкія. З выручкі збіраемся набыць у школу кантэйнеры для асобнага збору смецця.

— Думаеце, атрымаецца?

— Яшчэ б! У нас з раніцы чэргі стаяць. Здолеем.

— А калі не паспеем распрадаць, правядзём кірмаш другі раз. Тым больш, што многія нашы пакупнікі збіраюцца перакваліфікавацца ў прадаўцоў.

— Удачы!

Іду далей. На другім паверсе стоўпатварэнне ля сталоў «адмыслоўцаў».

— Чым цікавіцеся? — пытаюся ў малога з дзіўнымі кубікамі ў руках.

— Дык вось пашанцавала, — малы паказвае на хлопчыка за сталом, — тата збірае адходы мэблевай вытворчасці і выпільвае з іх кубікі. Глядзіце, якія класныя! З іх можна не толькі домікі будаваць, але і машыны. Не горш за ўсялякае там «лега» — гэта я вам як спецыяліст.

Што яшчэ?

За адным сталом дзеці робяць дрэвы са старых газет, за другім — вяжуць дыванкі і капялюшыкі з калготак, за трэцім майструюць з камп'ютарных дыскаў арыгінальную жырандолю. Насупраць — выстава вырабаў з другасных матэрыялаў. Вазачкі, падстаўкі для алоўкаў, домікі, кармушкі, паштоўкі, сувеніры. Свавольства!

— Не кажы, Паша, — ківае галавой Вераніка Уладзіміраўна, настаўніца працоўнага навучання. — А як жа кашпо з кветак? Ты толькі паглядзі, якія стылёвыя атрымаліся! А як жа кармушкі — на увесь школьны сад нарабілі. І цацкі з пластыкавых затычак. Адныя трансформеры чаго вартыя!

— Падабаецца? — скептычна ківаю дзяўчатам старэйшых класаў.

— Асабліва джынсавая калекцыя! — захоплена шчабечуць дзяўчаты. — Хоць ты на гурток да Веранікі Уладзіміраўны запішыся: і гаманцы, і нататнікі, і пакрывалы. А бранзалеты якія! На любы густ. І з паеткамі, і са стразамі, і з заклёпкамі.

Мінаю стэнд, дзе на маніторы на фоне роліка пра сметнікі бяжыць радок з заданнем для ўдзельнікаў: прыдумайце і запішыце на сцікерах арыгінальныя спосабы другаснага выкарыстання шкляных бутэлек ці бляшанак ад напітку… дайце параду па арганізацыі паасобнага збору смецця на гарадскім пляжы… адзначце актыўныя формы свайго ўдзелу ў праекце…

— І што новенькага атрымалася напрыдумляць? — пытаюся ў групы школьнікаў, якія сабраліся ля стэнда.

— О, ідэй у нас хоць адбаўляй! — адмахваецца ад пытання дзелавога выгляду хлапец у бейсболцы. — Запытаем наконт іх увасаблення.

Гляджу на стэнд: дзясяткі тры сцікераў з густа напісанымі сказамі і дадзенымі. Здаецца, экасавет знайшоў удалы спосаб прыцягнуць увагу дзяцей да экалагічна карыснай дзейнасці.

А ў актавай зале ўжо гучыць музыка. Натоўп ля парога не дае прайсці далей:

— Чаму стаім?

— Месца не хапае. Чакаем другога прагону.

— Прапусціце — прэса!

Прапускаюць: прэсу ў нас паважаюць. Як і ўсюды, напэўна.

Заміраю, калі бачу чароўных прыгажунь, якія дэфіліруюць па сцэне. Сапраўдныя феі і прынцэсы! Хто б мог падумаць, што са старых газет, часопісаў, камп'ютарных дыскаў можна зрабіць такія шэдэўры.

— Свята атрымалася? — пытаюся ў каардынатара праекта.

— І не толькі свята! — усміхаецца Галіна Анатольеўна. — Цэлы тыдзень дзеці і іх бацькі не сварыліся, а разам працавалі над гэтымі надзвычайнымі ўбраннямі і экспанатамі. І цудоўна справіліся з заданнем, за адным махам атрымалі шмат задавальнення і іншых пазітыўных эмоцый. Але на гэтым мы спыняцца не збіраемся. Задача ўскладняецца: за месяц дзецям трэба будзе прыдумаць і вырабіць са старой адзежы новую, якую можна будзе насіць у рэальным жыцці. Да таго ж сённяшняе шоу натхніла нас рэалізаваць ідэю экалагічнага тэатра.

Экалагічны тэатр? Крута! Будзе чым парадаваць чытачоў «Бярозкі» наступны раз. На выхадзе цікаўлюся ў вахцёркі:

— Колькі чалавек сёння наведала школу?

— Не пералічыць! — разводзіць рукамі Лідзія Станіславаўна. — Такое у нас толькі ў самыя вялікія святы бывае.

Што ж, атрымліваецца, і смецце можа стаць асновай свята. Калі прапанаваць добрую ідэю.




Подпіс рэдактара

______________

***Павел Ародзь***
***СШ № 12, Гродна***

# Хто куды?

*Апытанка*

***Мае сябры, вучні 116-й мінскай школы расказалі, якую навучальную ўстанову яны выбралі і як рыхтуюцца да паступлення.***



**Аляксандра Кокарава:**

— Я збіраюся паступаць у БНТУ, на будаўнічы факультэт. Ідэя з'явілася яшчэ ў дзяцінстве — я назірала, як працуе мая мама, і ў нейкі момант зразумела: хачу такую працу. Веды, якія я атрымліваю ў школе, безумоўна, дапамагаюць у падрыхтоўцы, але ўсё ж для абсалютнай упэўненасці я наведваю курсы па фізіцы і матэматыцы. Мне складана сумяшчаць падрыхтоўку да тэставання і заняткі ў школе, бо часта папросту не хапае часу, бываюць дні, калі сплю ўсяго 4—6 гадзін. Але я ўпэўнена, што вынік таго варты.



**Дыяна Філімонава:**

— Мая мара — дапамагаць людзям, і таму я выбрала медыцынскі ўніверсітэт. Мне падабаюцца два кірункі: траўматалогія і педыятрыя. Бацькі хвалююцца, а я цвёрда для сябе вырашыла: паколькі я гэтага хачу, я павінна паспрабаваць. З нагрузкай у школе спраўляюся як «сапраўдны медык» — п'ю вітаміны для імунітэту, каб радзей хварэць і не прапускаць заняткі, а галоўнае, стараюся высыпацца, бо сон вельмі важны для нашага арганізма.



**Ягор Аблавацкі:**

— Я выбіраў прафесію цікавую і блізкую па духу — праграміста. Параіўшыся з бацькамі, вырашыў паступаць у БДУІР. Падтрымка бацькоў, безумоўна, важная, яны ўбачылі ў маім захапленні будучую прафесію. Рэгулярна наведваю трэніроўкі па футболе, як ні дзіўна, але гэта дапамагае мне сканцэнтравацца і рухацца далей. Я лічу, што галоўнае — каб побач былі людзі, якія ў цябе вераць і сваёй падтрымкай даюць табе новыя сілы і веру ў сябе, калі робіцца зусім цяжка.



**Анастасія Лапотка:**

— Вельмі люблю матэматыку, таму спыніла свой выбар на эканамічным факультэце БДУ. Я вучуся ў фізіка-матэматычным класе, і школа мне вельмі дапамагае ў падрыхтоўцы. Для паступлення патрэбна і мова, таму я вырашыла наведваць курсы рускай. Нядаўна хадзіла на рэпетыцыйнае тэставанне, зараз з нецярпеннем чакаю выніку. Папраўдзе, вельмі цяжка выбраць, чым ты хочаш займацца ў будучыні. Разглядала шмат варыянтаў, але аказалася, што ў іншай прафесіі я сябе не ўяўляю.




Подпіс рэдактара

***Вікторыя Лагавік***
***СШ № 116, Мінск***

# Я — МАСТАК

# № 2

## У выпуску:



Адкрыта запрашэнне для мэтраў сучаснага выяўленчага мастацтва ў рэдакцыйную калегію

## Творцы жыцця

Кожны піша сваю карціну жыцця. На мой погляд, самыя яркія і выразныя творы атрымліваюцца ў тых, хто натхняецца мастацтвам.

Варта заўважыць, што ў сучаснага чалавека куды больш магчымасцей для асветы, чым у прадстаўніка любой іншай эпохі. Межы паміж масавай і элітарнай культурай сёння размытыя. Сказаць адназначна, добра гэта ці дрэнна, я не магу, але тое, што ў гэтым ёсць плюсы, прызнаць трэба.

Цяпер практычна кожны можа спампаваць сабе ў смартфон прыдатак WikiArt і стаць бліжэй да шэдэўраў сусветнага выяўленчага мастацтва, даведацца пра іх памеры, месцы знаходжання, кошт…

Я часта разважаю аб тым, на што мы трацім вялікую частку вольнага часу, крадучы яго ў свайго самаразвіцця. Было б выдатна, калі б сучасныя маладыя беларусы адарвалі свае вочы ад серыялаў а-ля «Рэальныя пацаны» і хаця б пятнаццаць хвілін прысвяцілі прагляду твораў Рэнэ Магрыта і Клода Манэ.

У кожнага ёсць сцежка да мастацтва, я ўпэўнена. Ты можаш любіць рэстараны і стаяць у галерэі каля аднаго палатна з тым, хто жыць не можа без таннай кавы, зваранай на простай кухні. Хатняя гаспадыня і літаратурны крытык могуць выбраць у кнігарні адну і тую ж кнігу. А студэнт кансерваторыі — слухаць адну музыку з тым, хто нават не ўяўляе, што такое нотны стан. Межаў больш не існуе, усё вырашае жаданне.

*Яна Мусвідас*



# Раман Сустаў
# На пачатку касмічнага шляху

***Эстампам (агульная назва друкаваных тэхнік) мастак Раман Сустаў займаецца ўжо больш за дваццаць гадоў. Яго працы прымаюць удзел у шматлікіх выставах па ўсім свеце. Былі і ўзнагароды, і персанальныя выставы. Сёння творы Рамана вядомыя і пазнавальныя, а мець іх у сваіх калекцыях пажадалі калекцыянеры з Амерыкі, Японіі, Германіі, Расіі, Польшчы. Здаецца, сам лёс спрыяе яму, мастаку, які ідзе па шляху свайго натхнення.***

— Мне падабаецца тое, чым я займаюся. У мяне неяк усё супала: адчуваю, што я на сваім месцы. Мне было вельмі проста зрабіць прафесійны выбар. Хоць адмыслова ў мастакі мяне ніхто не адпраўляў. Ілюзій ніякіх не было з самага пачатку. Я кожны дзень бачыў маму з татам, мастакоў па прафесіі, за працай. І я прывык да таго, што быць мастаком — гэта праца, каласальная праца. Памятаю, як заходжу да бацькоў у пакой, а там з аднаго боку мама малюе, з другога — тата. У іх тэрміны падцiскаюць, час працы здаваць. А я галодны. Давялося самому ў краму бегчы, па пельмені...

Раман Сустаў, як і ўсе дзеці, пачаў маляваць рана і рабіў гэта з задавальненнем. Гадоў у трынаццаць, калі сын пачаў знікаць на вуліцы, бацькі вырашылі кудысьці дзіця сваё аддаць, заняць справай. Трохі папрактыкаваўшыся разам з бацькам у маляванні нацюрмортаў, Раман паспяхова здаў экзамены ў мастацкую школу. З паступлення і пачаўся для маладога чалавека яго мастацкі шлях.

«Художка» для хлапчука са звычайнай мінскай школы апынулася зусім іншым светам: цікавым і душэўным. Кожны паход у мастацкую школу быў радасцю.

— Мне вельмі пашанцавала з бацькамі. Яны гатовыя былі дапамагчы, нават у дробязях: палатно нацягнуць, напрыклад, калі я не паспяваю. Нечага не ведаў, нешта не атрымлівалася — я заўсёды мог спытаць у мамы з татам. Бацькі ў мяне верылі!

Дзякуючы бацькам у Рамана Сустава з'явілася любоў да літаратуры. Чытала ўся сям'я. Уражаннямі ад прачытанага дзяліліся, кнігі абмяркоўвалі ў сямейным коле. Цяпер Раман і сам патроху стварае гісторыі — казкі для сына. Праўда, часу запісаць усё, што выдумана, і заняцца ілюстраваннем пакуль не хапае.

Пасля мастацкай школы Раман Сустаў вырашыў і далей асвойваць прафесію мастака. Паступіў у 26-ы мастацкі каледж. За каледжам — Акадэмія мастацтваў. У Рамана раскрыліся якасці, патрэбныя для працы з графікай: перфекцыянізм, упартасць, любоў да дэталяў. Сёння мастак Раман Сустаў працуе практычна ва ўсіх друкаваных тэхніках: афорце, лінагравюры, літаграфіі, ксілаграфіі. Такая ўніверсальнасць звычайна не ўласцівая творчым людзям: многія выбіраюць адну тэхніку і ў ёй развіваюцца. Раман жа прызнаецца, што ў любы момант, калі стамляецца ад аднастайнасці ў працы, ён можа пераключыцца. І гэта важна — адысці, пачакаць, калі раптам знікае цікавасць. Кепска, калі праца ператвараецца ў рамяство. Праца мастака, перш за ўсё, павінна быць захапленнем, запалам, імкненнем да новых адкрыццяў.

— Сваё натхненне я знаходжу ў літаратуры і музыцы. Калісьці сам іграў джаз. Гэта было сур'ёзнае захапленне. Але калі прыйшоў час выбіраць, якім мастацтвам займацца далей, выбраў адназначна — выяўленчым. Пра выбар не шкадую. Я атрымліваю сапраўднае задавальненне ад таго, чым займаюся. З радасцю выступаю ў якасці ілюстратара. Праца графіка, звязанага з ілюстраваннем, цікавая рэч. Хоць і вельмі цяжкая. Няма гатовых шаблонаў, раннія напрацоўкі не пасуюць. Трэба ўвесь час падладжвацца, прапускаць літаратуру праз сябе, шукаць грані ў любым творы. Хто працуе з кнігай, а такіх людзей усё менш, той па сутнасці сваёй павінен быць паліглотам. Як намаляваць чалавека з XVIII стагоддзя, калі не ведаеш, у што ён быў апрануты ў той час? У гэтай сітуацыі ад сябе мастак амаль нічога не прыдумае. Значыць трэба збіраць матэрыял, сур'ёзна рыхтавацца.

Займацца графікай, быць майстрам-друкаром справа досыць дарагая і тэхнічна няпростая. Многія матэрыялы даводзіцца «выпісваць» з-за мяжы. Стварыць невялікую паштоўку — праца вельмі карпатлівая. Спачатку мастаку трэба зрабіць клішэ. З яго і друкуецца затым увесь тыраж. У Рамана Сустава праца над клішэ памерам 8×12 сантыметраў займае прыкладна 2—3 дні руплівай працы. Для параўнання, у студэнтаў той жа самы працэс можа займаць тыдзень і больш. Майстар бярэ цынкавую пласціну, паліруе, пакрывае спецыяльным лакам. Лак копціцца і становіцца чорным. Па гэтым лаку і выдрапваецца малюнак. Калі малюнак прадрапаны, пласціну кладуць у кіслату. Цынк ўступае ў рэакцыю з кіслатой і травіцца ў глыбіню. Так на пласціне з'яўляюцца рыскі. Затым у рыскі трэба забіць фарбу, а саму пласціну вычысціць. І толькі потым з дапамогай спецыяльнага станка малюнак пераносіцца з клішэ на паперу. У руках такога майстра графікі, як Раман, усе гэтыя працэсы здаюцца няхітрымі і хуткімі. Але так толькі здаецца, бо мастак вучыўся гэтаму майстэрству большую частку жыцця.

— Практычна ўсяму я навучыўся ад свайго галоўнага майстра па друку Дзмітрыя Малаткова. Ён выдатны настаўнік, прыклад для мяне. Гэта легендарная асоба. У свае восемдзесят гадоў Дзмітрый Васільевіч неверагодна энергічны чалавек, калі працуе. І робіць ён сваю справу лепш за ўсіх! Калі ёсць імкненне да чагосьці, жаданне ўдасканальвацца — гэта бачна па чалавеку, гэта стварае асаблівую аўру вакол яго. Для мяне самога галоўнае, каб быў інтарэс: у жыцці, у творчасці. Тое, што сапраўды цікавіць, — толькі тое атрымліваецца, спрацоўвае. Не цікава — не рабі зусім.

Ёсць уяўленне, што мастак — гэта чалавек, які свабодна валодае часам. Раман Сустаў ніколькі не адпавядае падобнаму меркаванню. Неверагоднай удачай





для сучаснага мастака з’яўляецца магчымасць займацца чыстай творчасцю, не звяртаючы ўвагу ні на што іншае. Такіх людзей вельмі мала. Звычайна акрамя малявання мастаку трэба займацца і прасоўваннем сябе: весці перапіску, шукаць заказы, адпраўляць і адсочваць лёс гатовых работ. Нават каб паўдзельнічаць у групавой выставе, не кажучы ўжо аб арганізацыі персанальнай, трэба будзе выдаткаваць нямала часу і сіл, укласціся матэрыяльна. Расслабіцца, парушыць працоўны рытм для мастака значыць выпасці з прафесіі.

— У нас шмат таленавітых людзей. Нашы мастакі працуюць на сапраўды добрым узроўні. Кажу так таму, што шмат ездзіў і магу параўноўваць. Вядома, за мяжой лепшая вытворчая база, існуе развіты ўнутраны арт-рынак. Але ж і ў нас шмат чаго добрага ёсць! Напрыклад, такую разнастайнасць, што адрознівае беларускае сучаснае мастацтва, рэдка ў якой культуры яшчэ можна сустрэць. Не думаю, што мастак па-сапраўднаму можа рэалізавацца, раскрыцца ў чужой краіне.

Раман Сустаў спецыяльна не адсочвае конкурсы, спакойна ставіцца да ўзнагарод. Яму цікавей паразмаўляць з дасведчанымі людзьмі, пабываць у іншых друкаваных майстэрнях. Беларускаму графіку нецікава быць кімсьці ацэненым. Ён і сам ведае аб недахопах ці вартасцях кожнай сваёй працы. А лепшым крытыкам любому мастаку усё адно будзе толькі час.

— Я адчуваю, што вось толькі-толькі пачынаю расці. Чым вышэй мой узровень як мастака, тым выразней становіцца разуменне, што ўдасканальвацца можна бясконца. Вядома, тэхнічна сёння працаваць прасцей. Цяпер больш можна думаць не пра тое, ЯК нешта сказаць, а пра тое, ШТО ты хочаш сказаць. Сёння мне хочацца проста далей працаваць. Мне падабаецца сам творчы працэс. А яшчэ падабаецца выкладаць у Акадэміі мастацтваў, перадаваць свае веды маладому пакаленню. Гэта такое эмацыйнае падсілкоўванне, такая радасць — бачыць, як у хлопцаў і дзяўчат нешта атрымліваецца дзякуючы мне. Так што, я толькі на пачатку свайго касмічнага шляху.

***Анастасія Сасноўская***

# Малюем князя Вітаўта



*Выява Вітаўта з кнігі А. Гваньіні, 1578 г.*



*Ян Матэйка. «Грунвальдская бітва» 1878 г. Фрагмент.*

Фактычна, звестак пра знешнасць вялікага князя Вітаўта засталося няшмат. Усе выявы былі зроблены ўжо пасля яго смерці. Гэта некалькі дзяржаўных пячатак і жывапісных палотнаў. Важная выява — партрэт з брэсцкага аўгусцінскага манастыра, невядомы аўтар, другая палова XVII стагоддзя. Але мы за аснову возьмем графічную выяву — гравюру з кнігі «Апісанне еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваньіні.

***Крок 1.*** Праводзім лінію гарызонту, каб паставіць на яе чалавека. Эскізна прамалёўваем паставу. Адзначаем шырокія плечы. Асноўнымі штрыхамі малюем лініі пазваночніка, плячэй, сцёгнаў, адзначаем палажэнне ног. Затым малюем галаву. У сярэдняга мужчыны вышыня галавы меншая за вышыню цела ў 7,5 раза. Каб паказаць, што Вітаўт чалавек невысокі, возьмем прапорцыю 1:7. Асноўныя лініі сфарміруюць паставу, яе характар, паварот. На гэты шкілет будзем «вешаць» аб'ёмы цела. Малюем чэрап і адразу ж праводзім лінію сіметрыі галавы — каб паказаць ракурс.

***Крок 2.*** Прамалёўваем торс, таз, рукі і ногі. Шыю. Кісці рук і стопы ног. Каб правільна вымаляваць асноўныя мышцы рук, ног і грудзей, вельмі рэкамендую азнаёміцца хоць бы са схематычнай анатоміяй чалавека. Анатамічныя малюнкі лёгка знайсці ў сеціве. Напрыклад, кнігу «Пластычная анатомія» Ёнэ Барчаі. Асаблівую ўвагу звярні на будову чэрапа чалавека.

***Крок 3.*** Мы намалявалі шкілет і мышцы, а цяпер будзем апранаць князя. За аснову касцюма бяром магнацкі еўрапейскі касцюм XV стагоддзя. База касцюма — доўгі жупан на гузіках. Адзенне вялікага князя мусіць быць пашытым з самых каштоўных тканін (ядвабнае, аксамітнае). Глядзі карціну Яна Матэйкі «Князь Вітаўт».

Каб паказаць князя ў ролі ваяра, апрані Вітаўта ў даспехі — кірасу і наручы. Кірасу «надзяваем» паверх жупана. Узор кірасы шукаем у інтэрнэце. Паколькі гэта парадны княжацкі даспех, шмат увагі аддаём дэталям. Дэкарыруем яго. Але не забываем, што пад даспехамі — чалавечае цела, таму яны мусяць быць эрганамічнымі*. Улічваючы анатомію чалавека, дадаём наплечнікі і налакотнікі. На галаву змяшчаем шалом, увенчаны пер'ямі страуса. Робім рэканструкцыю шалома па гравюры з кнігі Гваньіні. Матэрыял — сталь.

У руцэ Вітаўт трымае дрэўка дзіды.

Апошні элемент, які ператворыць нашага пакуль што ўмоўнага ваяра ў вялікага князя, — гэта суконная мантыя, падбітая гарнастаем. «Накідваем» яе на плечы

---

** Прыстасаванымі для найбольш зручнай і бяспечнай работы.*




князю. Такім чынам, у адзенні князя выкарыстана шмат розных фактур — сукно, метал, скура, футра.

Цяпер звяртаем увагу на характар персанажа. Можна надаць эмацыянальнасці яго твару, выкарыстоўваючы мову чалавечай мімікі. Пастараемся надаць твару князя досыць грубыя рысы, выраз рашучасці і велічнасці.

***Крок 4.*** Цяпер можна працаваць з лініямі і тонам. Лініі на пярэднім плане (бліжэй да гледача) зрабі тлустымі, амаль чорнымі — гэта дасць выяве прасторавасць. Лініі дальняга плану, наадварот, зрабі лёгкімі, менш заўважнымі — і яны адразу адыдуць назад. Каб паказаць уласныя і падаючыя цені, абяры ўмоўную крыніцу святла. Згодна з ёй нанясі цені. Дзе святло толькі кранаецца паверхні, зрабі паўтоны. Пад целам Вітаўта будзе знаходзіцца падаючы цень, таксама згодна з крыніцай святла.

Лёгкі тонавы малюнак зроблены — і цябе чакае прыемная праца з фактурамі. У нас ёсць футра на плячах, сталёвая кіраса і шалом, аксамітны жупан, скураныя боты. Пер’е на шаломе зрабі лёгкімі і кароткімі экспрэсіўнымі лініямі. Каб метал выглядаў, як метал, раю паглядзець, як яго малявалі мастакі да цябе. Галоўнае тут — вялікі кантраст святла і ценю, а таксама моцныя рэфлексы (бо метал адлюстроўвае асяроддзе). Аксаміт і скура маюць куды меншую кантраснасць святла і ценю.

Апошні штрых — цёмным падкрэслі лінію стоп, каб цвёрда паставіць князя на зямлю.

***Матэрыялы:*** простыя алоўкі рознай мяккасці, туш і пяро. Рэтуш, вугаль, сангіна. Чорны соус.

***Заўвага.*** Гэта можа быць і лічбавая графіка, калі ты маеш графічны планшэт або проста планшэт (часта на іх можна ўсталяваць розныя дадаткі для малявання. І з дапамогай сціласа няблага справішся).

# «Былое. Пакой старога дома» Станіслава Жукоўскага

*«И ни звука!*
*И сердце томится,*
*Непонятною грустью полно…»*
***І. Бунін***

Яго палітра ўвабрала, усмактала ў сябе неадчувальныя, таемныя ўспаміны, элегію шляхецкага побыту. Яго жывапіс — не так *ад*-чуванні, як *прад*-чуванні, прадказанні, узгадаваныя эмпірычным досведам. У цішыні апетых ім сядзібных пакояў, дваранскіх інтэр'ераў, «в трепетном сумраке озябшего сада» міжволі паддаешся чароўнасці, жывапіснай паэтызацыі нематэрыяльных вобразаў, такой бачнай прысутнасці чалавека. Адчайна імкнешся ўявіць, кім мог быць уладальнік сядзібы, чыя рука сарвала кветкі для букета, што так беражліва пастаўлены ў вазу…

Станіслаў Жукоўскі — мастак, які тварыў у пераломны час, у канцы XIX стагоддзя, пры распадзе, краху імперыі; здавалася б, з'явам традыцыйнай памешчыцкай культуры няма месца ў віхуры крамольных перамен, а тым не менш ім было сабрана, зафіксавана ў шматлікіх карцінах тое, што сыходзіла разам з апошнім пакаленнем рамантыкаў, — лірычнасць існавання фамільных маёнткаў, дакранаючыся да якіх цяпер ужо толькі праз жывапіс, адчуваеш неверагоднае душэўнае ўзрушэнне, натхняльнае захапленне, падобнае на яркае незгасальнае святло.

У працы «Былое. Пакой старога дома» 1912 года асоба мастака дэматэрыялізуецца, саступаючы месца галоўнаму персанажу — святлу. Тут яно — праваднік, апавядальнік. Святло заклікае свядомасць гледача, бярэ яе ў «цуглі». Ледзь спыніўшыся на крэсле, што вытанчана выяўлена на пярэднім плане, яно, пакінуўшы толькі блік, слізгае далей, выбудоўваючы сваю мазаіку аповеду. Абхапіўшы аснову стала ў цэнтры, быццам абняўшы яго на імгненне, яно ўзнімаецца, абмацвае паверхні прадметаў сваімі светлавымі далонямі. І вось яно ўжо на краі стала, гладкая, лакіраваная паверхня якога, быццам служка гаспадара Святла, адлюстроўвае яго промні, рассыпаючыся светла-карычневай цеплынёй. Яно вядзе нас далей, не пакідаючы без увагі ніводнай дэталі: яшчэ некалькі крэслаў з выразным дэкорам, у неагатычным стылі, размешчаны такім чынам, быццам іх пакінулі на колькі імгненняў раней і нечая рука зноў хутка верне ім стройны парадак. Але мы імкліва рухаемся да канапы, што паблісквае набіўным малюнкам і размешчана да крыніцы святла — акна — так блізка, што наш праваднік, дасягнуўшы свайго апагея, зліваецца з першавытокам. А праз яго, праз акно, ліецца залатое ззянне восеньскай лістоты, яно афарбоўвае прадметы, фамільныя партрэты аранжава-чырвоным колерам.

У жывапіснай манеры Жукоўскага прабіваюцца рысы імпрэсіянізму, а калі дакладней, то гэта рускі эстэтызм. Можа быць, імпрэсіяністычная прага заключана ў імгненнай фіксацыі канкрэтнага моманту жыцця, які мае бясспрэчнае значэнне не як факт храналогіі, але як даніна памяці душэўнаму асяродку, які выслізгвае і раствараецца ў бязлітасным кругазвароце часу.

# Сродкі мастацкай выразнасці



Асаблівасці кампазіцыйнай пабудовы выказаны сюжэтна-сэнсавым цэнтрам у выглядзе стала на другім плане, з букетам кветак у вытанчанай парцэлянавай вазе, апалыя пялёсткі якога паказаны мастаком чародкай рытмічных мазкоў.

Стол складае частку мэблевага гарнітура другой паловы XIX стагоддзя, выкананы ў духу гістарызму або неаготыкі.

Каларыстычны цэнтр, характэрны для прац дадзенага жанру, размешчаны на заднім плане, з'яўляючыся найбольш ярка асветленым месцам — вытрыманай у халодным каларыце абіўкі канапай, прыстаўленай да сцяны, дзякуючы чаму і блік святла, што струменіцца ад акна, і цені, што падаюць ад блізкіх прадметаў узмацняюць танальнасць усёй карціны, узбагачаючы яе святлоценявымі і жывапіснымі кантрастамі, майстэрскім выкарыстаннем законаў паветранай і лінейнай перспектывы.

***Ксенія Куніца***
***мастацтвазнаўца, лаўрэат міжнароднага конкурсу маладых навукоўцаў***

# Каханне па-над балотам

## Які лёс прадказаў нам геніяльны твор Івана Мележа

10 клас

***Мы засталіся «людзьмі на балоце», нават калі іх, гэтыя балоты, асушылі. Мы абачлівыя, асцярожныя, здольныя жыць — не выжываць, а жыць — напоўніцу, нават у няпэўнасці. У кожнага з нас ёсць пачуццё годнасці, і калі трэба, мы — рашучыя, дзёрзкія, непераможныя. Гнёмся ды не ламаемся. І яшчэ мы ўмеем не толькі кахаць — летуценна і ўзнёсла, але і любіць.***

Каханне — аблачынка, туман, мроіва над балотам… Калі не лёс быць з абраннікам або ён не такі, як здавалася, то ўжо і не жыць. Але ж хіба маем мы права перарваць сваё жыццё, якое падарылі нам бацькі, тыя, хто любіць нас? А што, калі ёсць недзе чалавек, якому мы прызначаны прынесці шчасце? Любоў — найвялікшы дар. Яна мацуе сям'ю і кожнага з нас паасобку. Перачытайце ўсю «Палескую хроніку» («Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань…») , можна яшчэ і дзённікі Мележа, як калісьці ў школе зрабіла я, — і шмат што зразумееце ў сабе і жыцці навокал …

Мележ — гэта няспешная палеская плынь, гэта не проста класічны рэалізм — гэта рэалізм этнаграфічны. Дыялектычны. Так, так, не сацыялістычны, а менавіта дыялектычны (ад слоў *дыялект* і *дыялектыка*). Сцвярджаю гэта на правах паляшучкі па бацьку і ягонай маці, маёй бабе Веры, якая, сама казала, пражыла лёс Ганны Чарнушкі. Толькі да канца і без усялякіх рэзкіх зменаў. Вайну, чужыну, куды вывезлі фашысты, вяртанне ў спаленую вёску перажыла за мужам-гаспадаром, сямёра сыноў на хойніцкіх, велікаборскіх балотах выгадавала.

Раман «Людзі на балоце» — пра рэальнае жыццё. Значыць, не толькі пра каханне, але і пра любоў. У мележаўскіх герояў былі рэальныя прататыпы. І ў роднай вёсцы Мележа, Глінішчах Хойніцкага раёна, дзе цяпер ёсць музей, дасюль згадваюць тых, каго можна пазнаць у вобразах літаратурных герояў. А для нас Ганна Чарнушка і Васіль Дзятлік, ад самай той першае іх юнацкае сустрэчы, сталі блізкімі-блізкімі, таму што кожны, хто меў шчасце першага кахання, памятае і першы позірк, і першы дотык, і сарамлівасць, ад якой нямееш… І вогнішча, якое раздзімаеце разам, і ўся вечаровая прырода вакол, здаецца, рэхам множаць вашы пачуцці… Так было, ёсць і будзе.

Памятаеце: «Ганна ўжо раскладвала агонь сама. Кволы агеньчык, перад якім яна ляжала наўколенцах, ледзь-ледзь жыў. Ён быў такі немачны, што не мог запаліць нават жмутак сухога сена, які трымала на ім дзяўчына. Амаль прыпаўшы тварам да агеньчыка, нібы ў паклоне, старалася вярнуць Ганна яму жыццё, дзьмухала, падтрымлівала. А ён тлеў усё слабей. Дзяўчына была ў адчаі.

— Дай я!

Васіль стаў наўколенцы поруч з ёю. Яна крыху адсунулася, але не адышла. Так яны некалькі хвілін і ляжалі, плячо каля пляча, намагаючыся ажывіць агеньчык, што канаў».

Але мяняецца час, і, як ні дзіўна, мяняецца наша ўспрыманне класічных вобразаў. Найбольш гэта відаць, калі «Людзей на балоце» ставяць на сцэне ці экранізуюць. З дзяцінства ў мяне вобраз Ганны Чарнушкі асацыіраваўся не толькі з маёю бабай Вераю, але і з народнай артысткай Ліліяй Давідовіч, якая выконвала ролю на Купалаўскай сцэне. І лепшага за ціхага, патульнага Васіля Дзятліка народнага артыста Генадзя Гарбука мне таксама бачыць не даводзілася. Хоць быў фільм Віктара Турава, дзе ролю Ганны выконвала Алена Барзова, былі пастаноўкі ў розных тэатрах. Але не так даўно на Купалаўскай сцэне рэжысёр Аляксандр Гарцуеў паставіў новы, вельмі сучасны спектакль «Людзі на балоце». І пасля яго, перачытаўшы раман, я раптам адкрыла для сябе нешта вельмі важнае.

Натуральнае, рэалістычна-дыялектычнае зерне мележаўскага рамана — не летуценнае, як мроіва над балотам, каханне, а любоў, што мацуе сям'ю. Сям'я Глушакоў — традыцыйная беларуская сям'я, са сваім, уласцівым толькі ёй тэмпарытмам жыцця, у Глушакоў — няспешным, трывалым. Няспешным, таму што ўсё прадумана, разлічана, таму што кожны ведае свае абавязкі, дакладна выконвае сваю ролю, таму што з малітваю, з Богам. Ці не пра такую сям'ю марылі бацька Ганны, маці Васіля ды і сам Васіль Дзятлік?

Са школы не любіла мележаўскага Карча-Глушака. А тут задумалася. Як гэта Гаспадар усё так наладзіў... І жонка негаваркая, прыслуханая да мужа. І дзеці на зайздрасць усім. Без кахання такіх не народзіш. Адзін Яўхім чаго варты. Калі што робіць не так, бацька спыняе. Усё жыццё Глушакі працуюць, моляцца і зноў працуюць. Таму і багацейшыя за суседзяў.

Галоўнае, што парушыла рэвалюцыя, — гэта сямейныя традыцыі, а значыць культуру, мараль. А як утрымацца на балоце, калі няма ахоўнага кола сям'і, ахоўнага кола маралі?

Я трохі зайздрошчу сённяшнім гледачам! Ганна ў выкананні маладой актрысы Валянціны Гарцуевай — дзёрзкая, узнёслая і такая родная… Яна дакладна перадае мелодыку мележаўскай мовы, і пры гэтым яна такая сучасная ў выяўленні сваіх пачуццяў…

Як сапраўдны пісьменнік-рэаліст, Іван Мележ так паказвае ўсе падзеі, што мы, забываючы на тое, што гэта не рэальныя людзі, а ўсяго толькі літаратурныя героі, камусьці спачуваем, кагосьці асуджаем… Не стрымаць слёзы, і калі пакутуе абражаная Яўхімам Хадоська, і калі Васіль кажа: «Ня лёс, Ганно, ня лёс…»

Жыццё мудрэйшае за нас. І працяг рамана «Людзі на балоце», паверце, захопіць вас яшчэ болей. Хіба ж не цікава, як можна выжыць, калі захлынае «подых навальніцы», калі наперадзе «завеі, снежань», а пад нагамі ўсё тое ж балота… Мудрасць у тым, што ў чалавека ёсць душа, і каб утрымацца, трэба берагчы яе, шмат працаваць, рабіць дабро людзям, верыць у Бога, і кахаць, і любіць… Так, як спрабуюць рабіць героі Івана Мележа.

Цяпер мы, спаласаваныя рэвалюцыямі ды войнамі, вяртаемся да традыцый, сваіх каранёў не толькі і не столькі дзеля таго, каб захаваць мінуўшчыну, а дзеля таго, каб захаваць саміх сябе, каб не страціць будучыню. Таму не шкадуйце часу, слухайце пра тое, пра што яшчэ могуць расказаць вам старэйшыя людзі. І чытайце Івана Мележа. Ён вымушае задумвацца. Ён акрыляе. І дапамагае жыць і быць шчаслівымі нават на балоце.

***Галіна Багданава***



# Пяць крокаў да добрага артыкула

**Першы.** Выразна акрэслі тэму артыкула (рубрыку, калі артыкул прызначаецца для часопіса) і складзі прыкладны план-змест. Гэта дапаможа не «вылазіць» за межы, дасць магчымасць дакладна вызначыць напаўненне артыкула. План стане апорай, па якой, безумоўна, ты напішаш ўсё, што задумаў. Паметкі для зместу лепш за ўсё «накідваць» не ў адзін момант, а на працягу некалькіх дзён, каб укамплектаваць усе думкі і напісаць сапраўды добры тэкст.

**Другі.** Пачынаючы пісаць артыкул, пераканайся, што ў цябе ёсць у запасе хаця б гадзінка. Выключы інтэрнэт, закрый ўсе праграмы камп'ютара, каб нічога не перашкаджала і не адцягвала ўвагу. Атрымлівай максімум задавальнення ад напісання. Напрыклад, усталюй любімы шрыфт у тэкставым рэдактары. Можна ўключыць лёгкую фонавую музыку.

**Трэці.** Калі ў працэсе напісання артыкула ў цябе раптам зніклі настрой і натхненне, вычарпалася ідэя і г. д., проста пакінь працу на потым. Іначай артыкул будзе нецікавы. Натхненне ў працэсе напісання — галоўны залог добрага тэксту.

**Чацвёрты.** Абдумвай кожнае слова, якое хочаш напісаць. Пранікай ў сэнс словазлучэнняў, падбірай сінонімы. Пішы варыянты выказвання аднолькавых думак праз слэш. Раскрывай свае ідэі ў артыкуле цалкам, не баючыся напісаць нешта няправільна. «Прыслухоўвайся» да падкрэсліванняў праграмы: выпраўляй арфаграфічныя і пунктуацыйныя памылкі па падказках тэкставага рэдактара (але памятай, што ён не заўсёды правільна «разумее», што ты хочаш сказаць).

**Пяты.** Калі артыкул напісаны, уважліва яго перачытай. Калі дазваляе час, зрабі гэта праз некалькі дзён, каб тэкст «вылежаўся», а ты ўбачыў хібы ў ім. Выпраў тое, што «рэжа» вока, выдалі лішнія словы, калі такія ёсць. Прыдумай арыгінальную назву да напісанага матэрыялу. Загаловак павінен прыцягваць чытачоў — прыадкрываць сэнс артыкула, але пры гэтым інтрыгаваць.

І яшчэ: не бойся пачаць! Натхняйся, пачынай, пішы. Атрымлівай задавальненне ад занятку! Удачы!

***Сяргей Грудніцкі***

***Сяргей прапанаваў табе свае парады, як пісаць плённа і якасна. А ў цябе ёсць адмысловыя «рэцэпты» творчасці? Дасылай, дзяліся, прапаноўвай!***

# Самая звычайная раніца

Звычайная раніца… Дарослыя спяшаюцца прыгатаваць сняданак і не спазніцца на працу, дзеці — сабрацца ў школу і пры гэтым нічога (асабліва дзённік) не забыць і паспець да прыходу настаўніка ўвайсці ў клас.

Так, звычайная раніца… Мітусня на вуліцах, спешка. Горад кожнаму дыктуе рытм. Я, як і ўсе, спяшаюся, не хачу спазніцца на ўрок.

Горад віруе. Пульс яго адчуваю кожны дзень: з ранняй раніцы да позняга вечара. І здаецца, што з кожным днём часу становіцца менш і менш. Ён нібы бяжыць хутчэй за нас.

Пачакай мяне, час! Не спяшайся так! Дай мне агледзецца, я не паспяваю налюбавацца сваім горадам, нагуляцца са сваімі сяброўкамі, начытацца цікавых кніжак! Не, ён не слухае мяне, напэўна, не чуе. А часам так хочацца спакою і раўнавагі… І ты запавольваеш рух, пазіраеш на высокія будынкі, якія цябе акружаюць, на бліскучыя рэкламныя шыльды, на аўтамабілі, якія праносяцца міма, на мінакоў, што часам цябе штурхаюць і наступаюць табе на ногі.

Яшчэ гараць ліхтары. Мітусяцца белыя мухі вакол святла, нібы хочуць пагрэцца, але потым падаюць уніз, знікаючы бясследна. Вунь колькі снегу! Учора столькі не было. Намяло за ноч, цяжка рухацца. Яшчэ не паспелі пачысціць сцежкі, і снег прымінаецца чалавечымі слядамі. Колькі іх, гэтых слядоў, прайшло ўжо сёння, ды і праходзіла раней!

Некалі да школы, куды я зараз іду, вось гэтак жа ішлі сляды Уладзіславы Францаўны Луцэвіч і Якуба Коласа. Нам расказвалі, як былыя вучні школы бегалі ў Музей Янкі Купалы да Уладзіславы Францаўны, апавядалі ёй пра сваю вучобу, чыталі вершы. Менавіта таму школа носіць слаўнае імя нашага Песняра. А вось у гэтым скверы не раз гуляў Уладзімір Мулявін, прыдумваючы новую музычную кампазіцыю. Я ўяўляю, як ён без шапкі ішоў па сцежцы, па якой я крочу зараз. На вусы ягоныя апускаліся белыя сняжынкі, а ён іх нават не заўважаў, бо быў у сваіх глыбокіх думах, там, дзе гукі, музыка…

Маю фантазію перапыніў дзіцячы крык. Гэта малое вырываецца з рук маці… Вырвалася нарэшце, шмякнулася ў снег і зайшлося ад плачу. Не хоча ісці ў садок. Пэўна ж, не выспалася. Як я яго разумею!

Снег стаў сыпаць шпарчэй. Я падстаўляю руку сняжынкам, і яны кладуцца на мае рукавічкі пушыстымі камячкамі. На кусце, абсыпаным снегам, цэлая сямейка вераб'ёў. Яны так смешна пазашываліся паміж галінак, а снег, які падае зверху, робіць іх падобнымі на снежкі. Мне захацелася падысці да іх бліжэй, і я збочыла са сцежкі ў гладкую роўную снежную пасцель. Але дарэмна. Вераб'і ўраз шмыганулі ў розныя бакі, абтросшы амаль што ўвесь снег з куста. Узляцелі на дрэва, незадаволена зачырыкаўшы. «Самой не спіцца, дык і нам не дае!» — быццам хацелі яны сказаць гэтым сваім чырыканнем. Я вярнулася на сцежку, пастукваючы абцасікамі, абабіла з боцікаў снег, пайшла далей.

Неба, шэра-белае ад снегу, здаецца вялізным каўпаком, які засланяе нас ад інша-га свету. Засланяе мой горад, людзей, з якімі я кожную раніцу сутыкаюся на гэтай вось сцежцы, што вядзе мяне да школы. З кожным днём я ўсё больш задумваюся аб тым, што мы ўсяго толькі маленечкія крупінкі ў гэтым вялікім горадзе. І кожнай крупінцы трэба адчуваць не толькі сваю ўнікальнасць, але і яднанне з іншымі такімі ж крупінкамі. Нам так не хапае ўвагі, падтрымкі, разумення. Хочацца спыніцца і ска-заць: «Добрай раніцы, мінчане! Паглядзіце, якая прыгажосць навокал! Які слаўны наш горад!» І мне захацелася раптам, каб снег не пераставаў сыпаць, каб машыны не чысцілі сцежкі, каб самі людзі дапамагалі адно аднаму ісці ўперад…

Але гэта была звычайная раніца…

***Хрысціна Чайкоўская,***
***9 клас, СШ № 19, Мінск***

# Мары пра вясну

Мне хочацца, каб хутчэй наступіла вясна. Мне нават цяпер, у лютым, зда-ецца, што выходзіш на вуліцу — і ўсё пра вясну нагадвае: яскравае, хоць і не заўсёды, сонейка, чыстае і блакітнае неба, рэчка, на ледзяной паверхні якой блішчаць лужынкі вады.

Я мару пра той час, калі яркія і цёплыя промні будуць гасцяваць у дамах, асвятляючы там кожны куточак. Тады ніхто не захоча сядзець у замкнутай прас-торы, кожнаму захочацца выбегчы на вуліцу, каб надыхацца водарам вясновага паветра, каб паназіраць, як абуджаецца прырода. Я з кожным днём усё больш яскрава уяўляю сабе карцінку: дзеці весела пераскокваюць цераз бурлівыя вяс-новыя раўчукі. А потым пускаюць па іх маленькія папяровыя караблікі і са сме-хам бягуць услед…

Люблю назіраць за птушкамі і жывёламі. Ясна бачу жвавага верабейчыка, які скача ад адной лужынкі да другой, цікаўную сінічку, што імкліва пералятае з галінку на галінку. А вось немаведама адкуль з’явіўся лянівы руды кот, пацяг-нуўся, пазяхнуў, зажмурыўся ад асалоды. Хораша, але…

Але ўсё гэта пакуль, на жаль, мары…

***Алена Ляўковіч***
***9 клас, гімназія № 10, Мінск***

# Мая сям’я

Адзін малы спіць, другі слухае, адзін сынок спіць, другі глядзіць…

Жыве ў адной кватэры сям’я (хоць у ёй пакуль толькі шэсць «Я») адмет-ная і вельмі шчаслівая. Запрашаю ў госці!

Праходзьце, не саромейцеся! Вось гэты прасторны пакой з ложкамі ў два яру-сы — дзіцячы. Тут мы займаемся, гуляем, адпачываем. А паглядзіце, якая экс-клюзіўная мэбля! Тата сам яе змайстраваў!

Мой тата — вельмі сур'ёзны чалавек. Не ў тым сэнсе, што ён ніколі не ўсміхаецца, проста тата шмат чаго ведае. Ён доктар тэалагічных навук, музыкант, ведае аж дзевяць моў, сярод якіх грэчаская і старажытнаяўрэйская.

Ён вельмі добры тата! Нягледзячы на занятасць, кожную нядзелю ён з намі гуляе. Гэта — «дзіцячы дзень». Гульні ў нас цікавыя і разнастайныя. Напрыклад, у добрае надвор'е мы бегаем па лесе і шпурляемся шышкамі, плаваем на лодцы, страляем з лука, запускаем верталёт, гуляем у футбол. У пахмурныя дні ўсёй сям'ёй гуляем у настольныя гульні.

А гэты ўтульны пакой з камп'ютарам і старадаўняй мэбляй — татаў працоўны кабінет. Як тут усё прадумана, усё пад рукой! Гэта мама пастаралася, каб тату было зручна працаваць. Яна самая цудоўная мама ў свеце! Добрая, клапатлівая, ласкавая. Любіць нас. З татам заўжды заадно. А самае галоўнае, у чым яна падтрымлівае тату, дык гэта ў яго рабоце.

Наогул, нашы бацькі — абаронцы жыцця! Дзіўна і нават нязвыкла гучыць такое ў мірны час: ніхто на нас не нападае і абараняцца нам няма ад каго.

Ды вось толькі нядаўна я даведаўся, што кожны дзень гінуць у краіне немаўляткі, якія нават не нарадзіліся …

Амаль кожны дзень мой тата гутарыць з будучымі мамамі, якія спалохаліся, што ў іх з'явіцца дзіцятка. Спецыяльна дзеля гэтага тата стварыў дабрачынны фонд, дырэктарам якога і з'яўляецца. За шэсць гадоў такіх чароўных гутарак (я часам думаю, што мае бацькі — чараўнікі) ужо больш за сотню немаўлят нарадзілася, а значыць, засталося жыць!

Мама ўжо восем гадоў у дэкрэтным адпачынку і ні кропелькі аб гэтым не шкадуе, таму што такому духоўна адоранаму чалавеку, як мама, ніколі не бывае сумна. Акрамя хатніх спраў яна праводзіць школу родаў, дзе вучыць будучых маладых бацькоў, як трэба сябе паводзіць у цудоўны момант з'яўлення дзіцяці на свет. Вучыць нават таму, як трэба любіць яго потым. Расказвае, як гэта хораша — калі ў сям'і шмат дзетак. І гэта сапраўды так!

А вось самы сонечны пакой у нашым доме. Гэта гасціная. Тут усё ўздымае настрой і радуе вока: кнігі, цацкі, спартыўны куток, нават веласіпед сястрычкі не лішні. Тут мы весялімся: я і малодшыя брацікі. Яны — лепшыя сябры для мяне! З імі так цікава падрыхтаваць хатні канцэрт, «збудаваць» домік і жыць у ім некалькі дзён альбо проста пагуляць у злачынцаў і паліцэйскіх. А калі мы гасцюем у бабулі, то далучаем да нашых гульняў і суседскіх дзяцей. Яны нават прызнаюцца, што без нас — сядзяць і сумуюць, а з нашым прыездам дзіцячае жыццё ў вёсцы ажывае.

Мая малодшая сястрычка (ёй паўтара годзіка) усюды з намі. Яна ласкавая і пяшчотная, уважлівая і клапатлівая. Калі мы прыходзім з вуліцы, яна спрабуе дапамагчы нам распрануцца, а калі хтосьці плача, то абавязкова падыдзе і пачне суцяшаць. Такая маленькая, а ўжо так нагадвае нашу маму…

М-м-м-м, які прыемны ванільны водар! Гэта мама да нашага вяртання спякла пірог па старадаўнім сямейным рэцэпце. Запрашаю ў кухню — маміна каралеўства! Бачыце, колькі тут усяго патрэбнага і карыснага! Тут мы разам снедаем і вячэраем, вядзём размовы, дапамагаем маме гатаваць ці проста прыбягаем з'есці што-небудзь смачненькае альбо абняць маму. Сядайце, частуйцеся… Праўда, смачна? Тут, у маміным каралеўстве, мы раскрываем свае таямніцы. Хутка ў нас будзе сем «Я»! Толькі цс-с-с… Гэта пакуль сакрэт!

Я б і далей апавядаў пра нашу сям'і, але не ўсё ўдаецца ўспомніць адразу: штосьці забываецца, штосьці перабіваецца новымі ўражаннямі. Ды вы самі бачыце, якая ў нас цудоўная Сям'я! Вось так вось!

Адзін сынок спіць, другі сынок спіць, трэці сынок спіць, а дачушка з мамай гаспадараць, гасцей сустракаць рыхтуюцца. Прыходзьце, госці дарагія, мы заўсёды вам рады!


***Станіслаў Валаховіч***
***пераможца конкурсу юных пісьменнікаў у межах Магілёўскага фестывалю дзіцячага чытання «Вучымся чытаць разам: дзеці — бацькі — бібліятэка»***
***7 «В» клас, СШ № 45, Магілёў***




*Казкі школьнага ранца*

# Казка пра Сіняга Каня

Вечарам тата і мама глядзелі тэлевізар, а Веру адправілі спаць.

— Я не хачу спаць! — сказала Вера.

— Гэта кіно для дарослых, — адказалі бацькі.

— Усё роўна не хачу спаць! — не здавалася Вера.

— А ты палічы слонікаў, — параіла мама.

Вера палічыла слонікаў, іх атрымалася роўна сто. Далей яна лічыць не ўмела, а сон усё не прыходзіў.

І тут з-за кніжнай шафы выйшаў Сіні Конь.

— Я цябе ведаю, — сказаў ён. — Тваё імя — Вера. І ты не хочаш спаць.

— Я таксама цябе ведаю, — сказала Вера. — Ты — Сіні Конь. А дзе ты жывеш?

— Днём — за шафай, — адказаў Сіні Конь, — а ноччу гуляю. Хочаш, будзем гуляць разам?

Вера села Каню на спіну і яны зрабілі некалькі кругоў па пакоі. А потым Сіні Конь выскачыў у акно, і Вера вельмі спалохалася, бо жыла аж на восьмым паверсе. Але ў Сіняга Каня аказаліся крылы, і яны проста паляцелі над начным горадам.

На вуліцах нікога не было, толькі свяціліся ліхтары, а на галоўнай плошчы стаяў міліцыянер. Яму было сумна, бо ўсе вакол альбо спалі, альбо глядзелі тэлевізар.

І тут міліцыянер заўважыў крылатага Сіняга Каня, на спіне якога сядзела дзяўчынка. Ад нечаканасці ён засвістаў у свісток, а калі Сіні Конь плаўна апусціўся на плошчу, строга спытаў:

— Парушаем?!

— Што парушаем? — у адзін голас здзівіліся Вера і Сіні Конь.

— Ну, калі шчыра, дык нічога не парушаеце, — прызнаўся міліцыянер. — Проста хацелася на вас бліжэй паглядзець, а нічога іншага не прыдумаў.

— А давай возьмем яго с сабой? — прашаптала Вера на вуха Сіняму Каню.

Міліцыянер пачуў і адказаў:

— Я не магу! Мне трэба вартаваць плошчу.

— Ад каго? — здзівілася Вера. — Усе ж спяць?

Міліцыянер падумаў крыху і таксама ўскараскаўся на спіну Сіняму Каню. А прозвішча міліцыянера было Бублікаў.

Сіні Конь узмахнуў крыламі, і яны зноўку ўзмылі ў паветра. А па начной вуліцы ўслед за імі пабег сабака.

— Прывітанне, сабака! — гукнуў зверху Сіні Конь.

— Прывітанне, прывітанне! — адказаў сабака, бо быў ён не проста сабака, а Сабака, Які Размаўляе.

— Куды бяжыш? — спытаў Сіні Конь.

— Па адной важнай справе, — адказаў Сабака, Які Размаўляе.

— А мы дык проста гуляем, — засмуцілася Вера. — А можна, мы таксама паляцім па адной важнай справе?

— Можна, можна! — дазволіў Сабака, Які Размаўляе. — Толькі не перашкаджайце!

І Сабака, Які Размаўляе пабег далей. А Сіні Конь паляцеў услед за ім на сваіх крылах, а на спіне ў яго па-ранейшаму сядзелі дзяўчынка Вера і міліцыянер Бублікаў.

Доўга бег Сабака, Які Размаўляе і прыбег на край свету. Там не было вуліц з ліхтарамі, не было плошчы, якую трэба вартаваць. Там было толькі бясконцае мора.

Сабака, Які Размаўляе сеў на беразе мора і пачаў горка плакаць:

— Бедны я, гаротны Сабака, Які Размаўляе! Ніхто мяне не любіць! Няма ў мяне ні гаспадара, ні гаспадыні!

Сабака, Які Размаўляе плакаў, а слёзы яго капалі ў мора. Потым ён уздыхнуў і сказаў:

— Усё! Можна назад бегчы!

— А хочаш, я буду цябе любіць? — спыталася Вера. — Хочаш, я буду тваёй гаспадыняй?

Сабака, Які Размаўляе падумаў і сказаў:

— Хачу! А то вельмі ўжо надакучыла кожную ноч бегаць на край свету і плакаць. Вунь ужо колькі наплакаў — цэлае мора!

— Трэба хутчэй вяртацца! — прапанаваў міліцыянер Бублікаў і засвістаў у свісток.

— Трэба! — пагадзіўся Сіні Конь. — Бо сонца ўжо хутка прачнецца!

Міліцыянер Бублікаў і Вера зноў селі на спіну Сіняму Каню і паляцелі, а Сабака, Які Размаўляе пабег следам. Так яны вярнуліся ў горад.

Міліцыянер саскочыў на плошчы і зноў пачаў яе вартаваць. Сіні Конь заляцеў у акно і схаваўся за шафу. А Вера засталася адна.

— А як жа Сабака, Які Размаўляе? — успомніла Вера і… прачнулася.

Была раніца, у акно свяціла сонейка.

— Выходзіць, усё гэта мне толькі прыснілася? — уздыхнула Вера. — Шкада!

У гэты час у дзверы пазванілі. Тата пайшоў адчыняць, а праз хвіліну паклікаў Веру.

У пярэднім пакоі стаяў міліцыянер Бублікаў, а каля ног яго сядзеў Сабака, Які Размаўляе.

— Гэты сабака сцвярджае, што ён ваш, — сказаў міліцыянер.

— Наш! — усклікнула Вера. — Вядома ж, наш!

І тата не стаў пярэчыць.

***Наталля Лапшова***

***пераможца конкурсу юных пісьменнікаў у межах Магілёўскага фестывалю дзіцячага чытання «Вучымся чытаць разам: дзеці — бацькі — бібліятэка»***

***7 «В» клас, СШ № 31, Магілёў***

# Казка пра два барабаны

У адной казачнай краіне жылі два барабаны. Звалі іх Бум і Бах. Яны любілі барабаніць сваімі палачкамі, і была іхняя музыка моцная, шумная, але не вельмі меладычная, асабліва калі барабаны разам стукалі.

Надакучылі іншым жыхарам казачнай краіны шумныя барабаны, і было забаронена ім выбіваць свае мелодыі. І тады вырашылі Бум і Бах пакінуць каралеўства. Свет паглядзець, сябе паказаць.

Ішлі яны, ішлі… і завіталі аднойчы ў краіну Піянерыю. Тут жылі дружныя і вясёлыя хлопчыкі і дзяўчынкі, якія любілі розныя гульні, конкурсы і ладзілі шмат добрых і карысных спраў. А яшчэ піянеры часта арганізоўвалі піянерскія святы. А аб'яўлялі пра чарговае свята два звонкія піянерскія горны. Пад іх музыку збіраліся ўсе піянеры краіны.

Спадабалася барабанам у Піянерыі.

— Вось бы нам барабаніць на піянерскіх святах! — марылі барабаны.

— А давай папросім піянераў, каб яны дазволілі нам разам з горнамі ўдзельнічаць у піянерскіх святах, — прапанаваў радасна Бум.

— Правільна! Мы так забарабанім, што ім дух займе ад нашай музыкі! — узрадаваўся Бах.

Прыйшлі Бум і Бах да піянераў.

— Ну што ж, мы рады будзем прыняць вас да сябе, — сказалі піянеры, але мы павінны паслухаць, як вы ўмееце іграць.

Узрадаваліся барабаны і пачалі радасна барабаніць палачкамі.

— Бум! Бум! — стараецца Бум, моцна стукае палачкамі, збіваецца з рытму ад хвалявання і жадання быць лепшым.

— Бах! Бах! — імкнецца апярэдзіць сябра Бах, яшчэ мацней грукоча і завіхаецца, таксама збіваючыся з музыкі.

Пераглянуліся піянеры, паціснулі плячыма.

— Не, такая музыка нам не патрэбна, — сказалі яны барабанам. — Нам патрэбны дружныя, умелыя сябры, якія умеюць весела і зладжана працаваць, дапамагаць і падтрымліваць адзін аднаго. Вось як навучыцеся гэтак барабаніць, то мы з радасцю вас прымем да сябе.

Засмучаныя барабаны, апусціўшы палачкі, пайшлі прэч. Сорамна ім стала, што не змаглі яны паказаць піянерам спрыт і ўменне. Бо калі паасобку граюць,

то у кожнага з іх даволі няблага атрымліваецца, а калі спрабуюць разам, то выходзіць поўны разлад у іхняй музыцы. Пачалі сварыцца барабаны, абвінавачваючы адзін аднаго ў няўдачы. З сумнымі думкамі і злосцю адзін на аднаго прыйшлі барабаны да ўскрайку прыгожага лесу. Тут якраз цвілі кусты пахучай чаромхі. Садзілася сонейка. І сярод густых галінак чаромхі палілася чароўная мелодыя салаўя. Яна так спадабалася барабанам, што яны аж заслухаліся і перасталі сварыцца адзін на аднаго. А чароўная мелодыя ўсё званчэй і званчэй лілася ў неба.

І вось Бах пачаў ціхенька падыгрываць нябачнаму спеваку. Ён лагодна і рытмічна стукаў палачкамі, прыладжваўся да прыгожай мелодыі. Затым і Бум пачаў весела і ціхенька граць. І такая ў іх атрымалася цудоўная музыка, што самі яны здзівіліся. А салоўка змоўк на імгненне і сказаў барабанам:

— Вось бачыце, калі вы дружна, разам, ад чыстага сэрца і не перабіваючы адзін аднаго іграеце, то ў вас атрымліваецца хораша і зладжана.

— Сапраўды! — сказаў Бум.

— Цяпер я ўпэўнены, што піянеры нас прымуць у сваю каманду, — сказаў Бах.

І яны, падзякаваўшы салаўю за навуку, паімчалі да рабят. А калі зноў зайгралі сваю мелодыю, піянерам яна вельмі спадабалася. Так і засталіся Бум і Бах у Піянерыі. І цяпер яны жывуць у піянерскім пакоі, на высокай паліцы, побач з горнамі, з якімі таксама моцна пасябравалі. І кожнае свята пачынаецца ў піянераў пад сумесны марш горнаў і барабанаў.

*Алена Калкоўская, 5 клас,*
*Надзея Бізгень, 10 клас,*
*Шашкоўская СШ, Стаўбцоўскі раён*

# Верасок-паэзія

## ЗА МАІМ АКНОМ…

Зіма…
Каля акна сяджу,
Кудысьці ўдалячынь гляджу.
Высока ў небе зоркі ззяюць,
Мяне здалёк яны вітаюць.
Нібы чароўная пушынка,
Ляціць маленькая сняжынка.
Высокі ясень за акном
Галінкамі кранае дом.
Ліхтар то згасне, то мігне…

Не спіцца нешта сёння мне.

*Паліна Ламінская*
*7 «А» клас, Заслаўская гімназія,*
*паэтычны клуб «Ізяслаўцы»*

## ЗЯМЛЯ БАЦЬКОЎ, МАЯ ЗЯМЛЯ

Мая зямля, зямля бацькоў,
Чым выказаць сваю любоў?
Як даказаць табе спаўна,
Што ты ў мяне, зямля, адна?!

Цябе люблю з маленства я,
За водар лесу і садоў.
Зямля бацькоў, мая зямля,
Квітней жа ў квецені вякоў!

*Яўген Мармыш*
*8 клас, Забалоцкая СШ,*
*Воранаўскі раён*
*літаратурны клуб «Пегасік»*

## РАДЗІМА

Калі мяне мае анёлы
Знясуць да продкаў дарагіх.
Пабачу хаты іх і сёлы,
Сцяжыначкі пазнаю іх.

Успомню, як абаранялі
Зямлю ад чорнае чумы,
Як людзі зажыва згаралі…
Аб гэтым не забудзем мы!

Варожая жадала зграя
Цябе, мой край, са свету зжыць…
Але Радзіма, ты жывая!
І праз вякі ты будзеш жыць!

Цябе ніколі не забуду,
Якіх ні зведала б краін!
І берагчы я ў сэрцы буду
Аб краі родным успамін.

***Паліна Карташова***
***10 клас, Заслаўская гімназія,***
***паэтычны клуб «Ізяслаўцы»***

## ЗІМОЙ У ЛЕСЕ

Ціха ў лесе зімовай парой.
Спяць, прытуліўшыся, елка з сасной.
Белы кажух апранулі кусты…
«Вельмі прыгожа!» — сказала мне ты.

Дрэвы паснулі, паснулі звяры,
Спеваў птушыных не чутна ў бары.
Ціша, спакой тут плывуць над зямлёй.
Казачна лес выглядае зімой.

***Аляксандр Пячурык***
***6 «А» клас, Забалоцкая СШ,***
***Воранаўскі раён,***
***літаратурны клуб «Пегасік»***

## АБ СЯБРОЎСТВЕ

Слова «сябар» мы знаем з дзяцінства.
Сэнс яго пазнаецца пазней,
Калі думак і сэрцаў адзінства
Вызначае адданасць людзей.

Лепшы сябар не здрадзіць ніколі,
Дапаможа заўсёды ва ўсім.
Дружбы, моцнай навекі, даволі,
Каб да бед не застацца глухім.

Дружба — нашы багацце і сіла,
Берагчы яе трэба заўжды
Як бацькоў, як любоў да Айчыны,
Як здабытак галоўны ў жыцці!

***Караліна Цэлюк***
***7 «А» клас, гімназія № 16, Мінск***

## МАЕ РУКІ

Мае рукі — усё яны могуць,
І заўсёды
і ўсім дапамогуць.
Могуць маме прадукты паднесці,
Могуць брацікa ў садзік адвесці,
Посуд вымыць,
у хаце прыбраць,
І малюнак намаляваць.
А яшчэ дапамогуць сястрычцы
Парашаць задачкі па кніжцы…

І, каб мне з імі не сумаваць,
Могуць верш аб сабе напісаць.

***Даша Малахава***
***5 клас, Шашкоўская СШ,***
***Стаўбцоўскі раён***



*Міхась Пазнякоў*

## МІНСКІ ТРАКТАР

У цэхах шум —
Станкоў, машын,
А на двары
Ідзе пагрузка:
Паедзе ў сто краін
Наш трактар беларускі.
Праз мора, акіян
У Афрыку прыбудзе,
У сонечны В’етнам —
Ён так патрэбен людзям.
На ўсіх мацерыках
Яму даюць прапіску —
Старанна на палях
Працуе трактар мінскі,
Каб вечна на зямлі
Цвілі, квітнелі нівы,
Каб дружна мы жылі,
Каб кожны быў шчаслівы.

***Міхась Пазнякоў — аўтар больш чым паўсотні кніг паэзіі і прозы, сярод якіх нямала і для дзяцей. Ён зрабіў шмат перакладаў: «Дванаццаць месяцаў» Маршака, «Дон-Кіхот» Сервантэса, «Квенцін Дорвард» Вальтэра Скота…***

## БЛІЗНЯТЫ

Два браты,
Тарас і Бора, —
Сябрукі заўзятыя.
Не пазнаеш,
Дзе каторы,
Бо растуць блізнятамі.

Бора — здольны матэматык,
Мовазнаўцам слыў Тарас,
І пры выпадку брат брата
Выручалі кожны раз.

Матэматык лепшы ў класе,
Бора слаўна працаваў
І задачы за Тараса
На «выдатна» ён рашаў.

А калі на ўроку мовы
Бору клікалі — якраз
За яго заўжды гатовы
Пастарацца быў Тарас.

Ды аднойчы сябрукі
Свой «сакрэт» раскрылі.
Смех у класе быў такі! —
Школу ўсю здзівілі.

Разабраць складаны сказ
Па часцінах мовы
Быў пакліканы Тарас,
А браты пайшлі абодва.

І не ведаў увесь клас,
Дзе з братоў каторы.
Хто ж, нарэшце, з іх — Тарас?
А хто — Бора?

Заспрачаліся браты —
Зблыталіся самі,
Каб даведацца аб тым —
Запрасілі маму.



## ЖЭНЯ І КІШЭНЯ

— Разважае адмыслова,
Гаваркі — унучак Жэня.
І ні разу
Ён па слова,
Бач, не лазіць
У кішэню, —
Кажа гэтак
Наш дзядуля.

І за братам
Дзень сачу я:
Мне б даведацца —
У Жэні
Колькі слоў ёсць
У кішэні?

## ВОСТРЫ ЯЗЫК

Дзед падняў у хаце крык,
Вы яшчэ не чулі? —
Востры, нібы нож, язык
У маёй бабулі.

Дзед злуе, а я цішком
Ля яго бядую:
Ой, парэжа языком
Рот сабе бабуля.

## ШТО НА НОСЕ

Мой дзед Антось
Кляпае косы
І кажа мне:
— Касьба на носе.

А я гляджу
На дзедаў нос —
Жартуе, мабыць,
Дзед Антось.



## ШТО ГАРЫЦЬ?

— Ну і Віця! —
Дзед бурчыць. —
Бач, на ім усё гарыць...
Я гляджу
І ледзь не плачу.
Ды ніяк
Агню не ўбачу.
Віця ж — брат
Старэйшы мой,
Абалью яго вадой.

## ПЕСНЯ ПРЫРОДЫ

Я ў маленстве любіў завіруху,
Забіраўся ў глухі закуток
І, дыханне затоіўшы, слухаў
Чыстазвонны яе гаварок.

Столькі чараў і музыкі дзіўнай
Нараджалася ў сэрцы маім.
І сядзеў я, шчаслівы, гадзіны —
Шчыры-шчыры прад светам усім.

Падкрадаўся мароз паступова,
Сіні вечар спускаўся на двор,
З неба месяц мядзянай падковай
Выкрасаў серабро белых зор…
І з дзяцінства майго ўжо заўсёды,
У мароз, у снягі, у слату,
Я напоўнены песняй прыроды,
Чую сэрцам яе дабрату.

*Анатоль Бензярук*



# Жыж і Жыжка

На Гомельшчыне ёсць вёска Юравічы. Паблізу коціць свае воды рака Прыпяць. Край гэты спрадвеку завецца Палессем. У найстаражытныя часы — 26 тысяч гадоў таму жылі тут у невялічкім будане, складзеным з костак маманта, Жыж і Жыжка.

Жыж найчасцей ціха драмаў у цэнтры жытла, схаваны ў вуглях. Ён меў шмат імёнаў. Калі быў невялічкім і мірным, то зваўся Цяпельцам. Як толькі чалавек пачынаў карміць Жыжа, той разрастаўся. Мацнеючы, ператвараўся ў Агмень.

У той дзіўны даўні час лесу на Палессі было няшмат.Раслі адны кволыя бярозкі, асінкі ды кустоўе. Таму Жыжа найчасцей кармілі сухімі косткамі звяроў, якіх упалявалі людзі.

Языкі полымя ўзнімаліся высока, на іх гатавалі ежу, каля агню грэліся і сушылі вопратку. Агмень уладкавалі, абклалі камянямі, утаймоўвалі, каб не пайшоў гуляць-сваволіць у хаціне. Было ў яго яшчэ адно імя. Калі чалавек гінуў, знікаў са свету, суродзічы запальвалі побач пахавальны агонь — Зніч.

Жыжка быў хлопчыкам. І спачатку ў яго зусім не было імя.

Аднойчы, калі дарослых не засталося ў будане, малы пабачыў гарачае чырвонае вока, якім паглядаў навокал Жыж. Хлопчык падпоўз бліжэй, відаць, хацеў павітацца. Аднак вуглі былі гарачыя, ён апёкся і закрычаў. Маці прыбегла на плач сына. На руцэ з'явілася чырвоная адмеціна.

— Ён мяне параніў, — захныкаў маленькі.

— З агнём трэба сябраваць, нельга яго турбаваць без прычыны. Ён такое не любіць ды злуецца... Аднак цяпер і ў цябе з'явілася імя. Ты будзеш Жыжкам — хлопчыкам, адзначаным Жыжам.

— Ён злы, злы!

— Нельга Агмень дражніць! У яго ёсць джала. Ён можа быць пякучым і бязлітасным, біць перунамі-маланкамі, крышыць ды нішчыць. Бо ён нарадзіўся на небе, адкуль і пазычыў вялізную сілу. А ўпершыню прыйшоў да нас сярод грознай навальніцы…

***Анатоль Бензярук — краязнаўца, гісторык, журналіст і пісьменнік, які жыве і працуе ў горадзе Жабінка Брэсцкай вобласці. Пачытай яго кнігу пад назвай «Мячы Грунвальда, альбо Дванаццаць абаронцаў караля», напісаную спецыяльна для вучняў сярэдніх і старэйшых класаў. Хоць і дарослыя з задавальненнем яе чытаюць.***

Моцная маланка ўдарыла тады ў старое дрэва, расшчапіла і падпаліла яго. Агонь запалаў. Людзі ўзялі сабе гэты нябесны падарунак. І вось ён жыве ў іх буданах.

Жыжка паглядзеў на вогнішча. Жыж мірна спаў між камянёў, шэрыя вуглі ўтрымлівалі агонь. Прыручаны чалавекам, Агмень лашчыўся, мармытаў, патрэскваў галінкамі. Цяпер ён быў невялічкім Цяпельцам, ад якога ішоў цёплы дух. Утульна рабілася ў хаціне.

— Пакармі Жыжа, і ён цябе з часам пракорміць!

Хлопчык ужо ведаў, як корміцца Жыж. На камянях дарослыя смажылі мяса. Ласкавы дымок прыносіў радасць і спакой. Бо голад і холад маглі забіць чалавека, а Жыж ратаваў яго.

— Чуеш, сынок, як гудзіць завіруха? Бачыш, моцны шалёны вецер носіцца над зямлёй? Але яны не прыйдуць сюды, пакуль у будане Жыж! З ім мы непераможныя. Гора будзе, калі памрэ агонь!

Аднойчы ў кароткую адлігу ледзь не здарылася бяда. Многія дарослыя пайшлі паляваць на звера, збіраць карэньчыкі, а Жыжка павінен быў пільнаваць агонь. Аднак загуляўся малы, не дагледзеў, як разлілася раптам веснавая вада. Яна хутка падышла да жытла і накінулася на вогнішча.

Калі людзі пабачылі буйную ваду, пабеглі прэч ад яе.

Але сказаў тады старэйшы:

— Як Жыж памрэ — усе мы прападзём! Вяртайцеся, супляменнікі, не кідайце агонь!

Людзі крычалі, махалі рукамі:

— Вада, вада, ідзі прэч! Не чапай Агмень, яго не калеч!

Але не слухаліся вялікія стромкія хвалі — ішлі ў наступ.

Тады Жыжка пабачыў: ягоны бацька адважна кінуўся ў сцюдзёную ваду. Ратуючы агонь, ён перанёс гарачыя вуглі на ўзвышша.

Надыходзіў вечар, цёмна стала навокал. І толькі слабае чырвонае вока сіратліва глядзела на хлопчыка.

Калі Жыж быў моцны, адганяў ад паселішча драпежнікаў, гатаваў ежу, адаграваў у непагадзь.

Зараз стаў ён слабы. Хоць кармілі яго і песцілі, хавалі ад ветру. Ён ледзь-ледзь еў галінкі, дробныя костачкі, ціха дрыжаў ды высоўваў свае язычкі, быццам прасіў дапамогі.

Жыжка бедаваў над кволым агнём, плакаў горка:

— Жыж, дарагі, я аддам табе ўсё лепшае, што маю. Толькі не памірай. Толькі жыві!

Раптам успыхнула слабае чырвонае вока, паглядзела на хлопчыка. Жыж быў жывы…

Ажыў агонь, і чалавек будзе жыць!

Зразумеў хлопчык — шмат тысяч гадоў будзе існаваць пад абаронаю агню ягоны род.





*Святлана Быкава*

# Чароўны ключык

Цішыню школьных калідораў разрэзаў званок з урока. Заняткі ў школе скончыліся. Праз імгненне ўсё навокал гуло ад дзіцячых галасоў і беганіны. Насця, сабраўшы ў партфель падручнікі і сшыткі, не спяшаючыся выйшла з класа.

У гэту школу яна прыйшла ў пачатку навучальнага года. Папярэднія восем класаў правучылася ў іншай школе, нават у іншым горадзе — там раней служыў яе бацька. Летам яго перавялі — і вось ужо другі месяц яна прыжываецца ў новым калектыве.

Трэба сказаць, што працэс «прыжыўлення» ішоў няблага, і гэта адбывалася дзякуючы добразычлівасці дзяўчынкі. Кожны, хто меў з ёй справу, адчуваў гэту яе якасць.

Насця выйшла з будынка школы. Нехта крануў яе за плячо. Побач стаяла аднакласніца Ганначка, з якой яны сядзелі за адной партай. Насці пашанцавала з суседкай — з першага дня знаёмства яны адчулі сімпатыю адна да адной. «Давай пасядзім крыху тут, каля школы», — прапанавала Ганначка сяброўцы. Насця згадзілася, і яны селі на лаўку каля ганка.

— Паслухай, я даўно хацела цябе спытаць: чаму ты такая… нейкая не такая, як усе? — пачала гаворку Ганначка. — Ты ніколі не крыўдзішся, ні з кім не сварышся, не адказваеш абразай на абразу. Як у цябе гэта атрымліваецца?

Насця крыху сумелася і некалькі імгненняў моўчкі глядзела на суседку па парце, нібы ацэньваючы яе. Нарэшце, яна адказала:

— Раскажу табе адну гісторыю з майго дзяцінства. Калі мне было гадоў сем, мы з мамай і татам жылі ў іншым горадзе. Нашай суседкай была адзінокая старэнькая бабулька, вельмі сціплая і добрая жанчына. Аднойчы я гуляла на вуліцы і мяне пакрыўдзіў суседскі хлопчык. Са слязамі я пабегла дадому, але на лесвіцы сустрэла суседку. Яна спытала мяне, чаму я плачу, і я расказала ёй пра свайго крыўдзіцеля. Бабуля выцерла мне слёзы і прапанавала зайсці на хвілінку да сябе. Мы зайшлі, і яна вынесла мне з пакоя невялічкі ключык, сказаўшы: «Вось табе чароўны ключык. Ён адчыняе сэрцы людзей. Спачатку ён адчыніць тваё сэрца, а потым і сэрца таго чалавека, з якім ты хочаш мець добрыя зносіны. Для гэтага дастаткова толькі ўзяць ключык у руку і шчыра ўсміхнуцца, ад усёй душы пажадаць дабра і шчасця таму, каму ўсміхаешся. Кожны чалавек — добры, але часам у жыцці бывае так цяжка, што ён забываецца на гэта. І толькі добрае слова, сардэчная цеплыня могуць абудзіць у ім добразычлівасць і спагаду. Калі ты будзеш пастаянна карыстацца ключыкам, ён аддасць табе

ўсю сваю чароўную сілу, і ты зможаш ужо і без яго рабіць дзівосныя рэчы».

*Святлана Быкава — аўтар шасці зборнікаў паэзіі і некалькіх кніг для дзяцей. Жыве ў Заслаўі, у мясцовай гімназіі вядзе літаратурны гурток «Ізяслаўцы».*

З таго часу я пачала насіць чароўны ключык з сабой і карыстацца парадай старэнькай суседкі. Я заўсёды паводзіла сябе добразычліва, ставілася з павагай да кожнага чалавека, памятаючы, што нават у самага злоснага і нявыхаванага ў глыбіні душы заўсёды ёсць хоць крышку дабрыні… І ведаеш, часам з такімі людзьмі адбываліся сапраўдныя дзівосы, у іх праяўляліся лепшыя чалавечыя якасці… — скончыла свой аповед Насця.

Тут дзверы школы адчыніліся, і ў двор выбег шасцікласнік Колька. Ён з задзірыстым выглядам накіраваўся да дзяўчынак:

— А вы што тут робіце? — працадзіў Колька скрозь зубы.

Адчувалася, што ён хоча неяк зачапіць дзяўчат, сказаць ім штосьці непрыемнае, а, магчыма, і за касу таргануць.

Ганначка спалохалася, а Насця, памацаўшы рукой у партфелі, выцягнула раптам адтуль цукерку ў прыгожай абгортцы: «Хочаш? Частуйся!»

Колька, нібы папярхнуўшыся нядобрымі словамі, якія ўжо гатовы былі зляцець з яго языка, як зачараваны, працягнуў руку і ўзяў прапанаваную цукерку. «Дзякуй…» — збянтэжана прамовіў ён і, павярнуўшыся, у задуменні пайшоў у бок школьнай брамы.

Здзіўленая Ганначка ўсклікнула: «Насця, ты сапраўдная чараўніца! Каб Колька проста так адчапіўся… Ды гэтага ж ніколі не было!..» Далей яна са смехам працягнула: «Ведаеш, я ўжо вырасла з таго ўзросту, каб верыць у цуды, але…»

Памаўчаўшы крыху, дадала: «Але я б не адмовілася мець такі чароўны ключык, які дапамог бы мне палепшыць адносіны са старэйшым братам, бо мы з ім апошнім часам вельмі часта сварымся».

Насця, таксама засмяяўшыся, зноў палезла ў партфель, з глыбіні яго выцягнула невялічкі сталёвы ключык: «На, трымай! Мне ён ужо не патрэбны, а табе можа дапамагчы». І ўжо сур’ёзна дадала: «Але памятай, што ты першая павінна адкрыць сваё сэрца для добрых пачуццяў».

Сяброўкі пасядзелі яшчэ некалькі хвілін і пайшлі дадому. Развітаўшыся, Ганначка звярнула на сваю вуліцу і доўга ішла ў задуменні.

Яна ўсё думала пра гісторыю з чароўным ключыкам. Потым думкі пераключыліся на старэйшага брата. Як добра яны ў дзяцінстве гулялі! Што ж здарылася цяпер? Учора яны зноў так моцна пасварыліся, што нават раніцай не размаўлялі…

Тут Ганначка ўспомніла старэнькую суседку Насці, яе словы пра тое, што людзі ў жыццёвым віры часта губляюць добрыя пачуцці...

Каля дзвярэй кватэры Ганначка спынілася і, апусціўшы руку ў кішэню паліто, намацала Насцін ключык. У гэты момант ёй здалося, быццам лагодная цеплыня пайшла ад ключыка па руцэ ўверх, да сэрца.

Адчыніўшы дзверы, дзяўчынка адразу ж убачыла брата, які стаяў у калідоры. «Прывітанне!» — сказала Ганначка, адкрыта і з любоўю гледзячы на яго і моцна сціскаючы ў кішэні ключык. «Прывітанне…» — крыху збянтэжана адказаў хлапец, але, уважліва паглядзеўшы на сястру і ўбачыўшы яе прыветлівы твар, таксама лагодна ўсміхнуўся…

*Валерый Мусіенка*

# Сашчэпка

*Казка*

Жыла-была сашчэпка. Жыла яна ў пакоі хлопчыка. Аднойчы хлопчык змайстраваў машынку. І яму спатрэбілася сашчэпка.

Ён разагнуў сашчэпку і на канцы яе насадзіў колы. Сашчэпка ўзрадавалася, што выконвае вельмі важную работу. Цэлымі гадзінамі сашчэпка каталася. Але аднойчы яе выцягнулі з машынкі і прынеслі ў пакой таты.

Цяпер сашчэпка стала цвіком. Праз некаторы час яна зламалася. Тата ўжо сабраўся выкідваць яе. Але тут прыйшла мама! Яна папрасіла даць ёй сашчэпку.

Але ўжо цяпер сашчэпка зрабілася шпількай. Шпілька часта дапамагала маме. Іншым разам хустку замацаваць, а калі — і з пінжаком дапамагчы зладзіць. Так, здавалася б, звычайная сашчэпка.

Але кім жа яна толькі не была: і воссю, і цвіком, і шпількай. Можа быць, сашчэпка яшчэ каму-небудзь спатрэбіцца.

Можа быць, нават табе?

***Пераклаў з рускай мовы Алесь Карлюкевіч.***

## Новы праект. Аповесць-канструктар

### Інструкцыя




Выразай па шэрым пункціры.




Складвай напалам па карычневым пункціры такім чынам, каб старонка 17 (21, 25, 29) апынулася зверху.




На апошнім этапе складзеныя напалам двойчы старонкі трэба скленць па бэжавай лініі.

***Важна!*** Для склейвання старонак, каб яны не карабаціліся, выкарыстоўвай ***гумавы*** клей.

***Так, месяц за месяцам дадаючы новыя старонкі аповесці, ты можаш стварыць кнігу!***

***Падрабязнасці пра аповесць «Арнаменты» з вуснаў аўтара Аліны Длатоўскай чытайце ў лютаўскім нумары часопіса «Маладосць».***

***Аўтар ілюстрацый да аповесці — Наталля Длатоўская.***

***

Міраслава пагрукала ў дзверы. Вакол стаяла цішыня. Квартал Майстроў, здавалася, быў абсалютна пусты. Канешне, у такі час настаўнік хутчэй за ўсё трэніруе вучня. Да агульнага адбою яшчэ дзве гадзіны, а лепшыя вучні, ясная справа, займаюцца да самай ночы. Яна пагрукала яшчэ раз, проста так, ні на што не спадзеючыся. Але дзверы адчыніліся. Яна паціснула плячыма і ўвайшла.

— Добры вечар у хату!

Вітанне засталося без адказу. Міра хітравата ўсміхнулася і пайшла аглядаць дом.

Не, не знойдзе яна агульнай мовы з гаспадаром. Бо хто можа знайсці яе з такім занудам? У які б пакой яна ні зазірала — паўсюль бачыла мінімум рэчаў, бездакорную чысціню і парадак. Як тут увогуле можна жыць? Яна ўсунула свой нос у чарговы пакой, не чакаючы нічога цікавага, але ёй нарэшце пашчасціла.

На простым драўляным ложку спаў юнак, загорнуты ў лёгкую коўдру. Ён выглядаў на гадоў сямнаццаць. Русыя валасы, занадта доўгія для Ваяра, спадалі на адкрыты светлы твар. Выразныя вусны крывіліся ў сне. Правая рука была па-дзіцячы падкладзена пад шчаку, а левая сціскала невялікую пляскатую падушку.

— А ты дарослы хлопец, — шэптам вымавіла Міраслава. — Твой настаўнік можа апынуцца старым бурчуном. Вось тады я пашкадую пра свае рашэнні… Ужо, здаецца, магу пачынаць шкадаваць. Мала

17

— Я слухаю.

— Кладзіся спаць. А заўтра я згадаю табе тваю дзёрзкасць.

— Як заўсёды, — прамармытаў юнак, зарываючыся ў коўдру.

— Я вось зараз наконт адкладання размоў перадумаю, — ціха рыкнуў настаўнік.

Хлопец канчаткова знік пад коўдрай. Мужчына пахітаў галавой і стварыў некалькі абарончых сімвалаў. Міра здзіўлена за ім назірала. Па-першае, яна ўпершыню чула, каб вучня папракалі ў тым, што ён пера-, а не недазаймаўся. Па-другое, яна ўпершыню бачыла, каб настаўнік так хваляваўся за вучня. І па-трэцяе, яна ўпершыню адчувала ад вучня столькі энергіі. І гэта ён «на нулі»?

— Хадзем, Міраслава, пазнаёмімся. Дабранач, Свавольнік.

***

Хут вельмі любіў хітрыкі. Ён нават лічыў, што ён самы гарэзлівы і жартаўлівы з усіх знаёмых яму хутаў. Хоць, па шчырасці, іх мала засталося. Яго сваякам часцей трапляліся гаспадары пахмурныя, злосныя, змрочныя. Некаторым хутам не шчасціла настолькі, што ім даводзілася туліцца па хатах, у якіх нават у думках не дапускалі іх існавання. Яму самому трапіўся выдатны гаспадар, які штораніцы пакідаў яму рэшткі яешні і абаранкі, а часам нават

20

ты падобны на лепшага вучня. Лепшы вучань у такі час не спіць салодка, а займаецца да мазалёў… Пачакай-пачакай…

Яна нешта заўважыла на левай руцэ хлопца і падышла бліжэй. Татуіроўкі былі звычайнай справай для Ваяроў, хоць і не ў такім узросце, але ў гэтай было нешта асаблівае. Выбіты з унутранага боку запясця сімвал жыцця пульсаваў, нібы пад скурай мігцелі вугольчыкі згаслага вогнішча. Раней Міра нічога падобнага не бачыла, і пальцы міжволі пацягнуліся дакрануцца, намацаць, упэўніцца. І чым бліжэй да сімвала была яе рука, тым актыўней пульсавала выява — нібы на вугольчыкі нехта дзьмуў, і яны рабіліся чырванейшымі.

Міра ўжо амаль дакранулася, калі нешта нябачнае адштурхнула яе да сцяны. Хлопец сеў на ложку, пацёр запясце, нахмурыўся. Дзяўчына не разумела, ад чаго — ад болю, незадаволенасці, злосці ці расчаравання.

— Усевалад! — у пакой забег малады дужы мужчына, спалоханы і заклапочаны.

— Я ў парадку, — шэптам вымавіў юнак, узняў на мужчыну разгублены позірк. — Я… Я прашу прабачэння, Настаўнік.

— Гэта ты зараз ёй скажаш, — адрэзаў мужчына, узнімаючы Міру на ногі. — Прабачце за негасцінны прыём, спадарыня Міраслава. Як вы? Не выцяліся?

Яго шэрыя вочы быццам бачылі яе наскрозь, і ўвогуле, позірк яго вельмі нагадваў позірк Кіраўніка.

18

Але яе зачаравала ўсё яго суровае аблічча: і прамы нос, і цвёрдае падбароддзе, і вузкія сцятыя вусны — мужчына здаваўся б прыгожым, калі б не быў такім… Ваяром.

— Са мной усё нармальна, — побач з ім Міра адчула адначасова небяспеку і спакой. — Але мяне так не штарміла нават пасля трэніровак, дзе нас вучылі кіраваць энергіяй.

На суровым твары Ваяра з'явілася ўсмешка, але ненадоўга.

— Мой вучань не заўсёды можа кантраляваць сваю моц. Таму звычайна ён ставіць абарончыя сімвалы на ўваход, каб выпадкова не забіць новага Падмайстра свайго Настаўніка, — мужчына кінуў на юнака жорсткі пагляд, але той, здаецца, не вельмі спалохаўся.

— Я прашу прабачэння, — з націскам паўтарыў хлопец. — Да таго ж у мяне энергія на нулі. Я нікога не забіў бы, нават калі б захацеў. І «штарміць» мяне цяпер яшчэ больш.

— Нічога сабе ў вас нуль, малады чалавек, — хмыкнула Міра.

— Давайце заўтра яшчэ раз пазнаёмімся, — хлопец пацёр вочы. — І, Настаўнік, ці можам мы перанесці нашу сур'ёзную размову таксама на заўтра?

— Насамрэч, твой энергетычны стан — твая ўласная правіна, хлопчык. Бо калі я сказаў, што табе сёння дастаткова практыкавацца, — значыць, сапраўды дастаткова… Але ты ні тады мяне не слухаў, ні цяпер!

19

Ён дакладна спадабаўся б Алісе. Асабліва доўгія русыя валасы, запраўленыя за крыху адтапыраныя вушы. Адзіная цёмная пасма выбілася з-за правага вуха і ўпала хлопцу на нос. Ён настойліва спрабаваў яе здзьмуць, каб не казыталася. Малая засмяялася, гледзячы на гэта. Хлопец устаў.

— Ты такі смешны!

Ён азірнуўся, нібы яна магла звяртацца да кагосьці іншага, а потым разгублена адказаў:

— Дзякуй.

— Мяне завуць Агнія. А цябе?

— Юрась.

— Дык гэта пра цябе песенька?

— Мо і пра мяне. А мо я проста грэюся на сонейку.

— Ты прышпільны, — дзяўчынка ўладкавалася побач на лаўцы.

Яны крыху пасядзелі моўчкі, разглядаючы адзін аднаго. У Юрася былі вялікія жоўта-зялёныя вочы, прыгожая выразная ўсмешка, і ён ёй вельмі кагосьці нагадваў. Агнія ў сваю чаргу падалася Юрасю сапраўднай прыгажуняй. Рудыя кучаравінкі, рабацінкі і сінія-сінія вочы на шчырым дзіцячым тварыку проста зачаравалі яго.

— У цябе ў хаце жыве Хатнік? — раптам спытала малая.

Хлопец здзіўлена зірнуў. Ну вось, зараз і ён пасмяецца і назаве яе фантазёркай. Юрась, аднак, смяяцца не збіраўся.





пасмейваўся з ягоных жарцікаў. Сядзіць, напрыклад, на ганку, фарбуе свае гліняныя вырабы, а Хут возьме і сцягне пэндзлік. Тады гаспадар пашукае-пашукае, усміхнецца ў вусы ды заўважыць шэптам:

— Ты мне гэтыя дурыкі кінь і працаваць не перашкаджай. Потым пагуляеш, чарцянятка.

Хут, канешне, пэндзлік вяртаў. Часам нават «з адсоткамі». Ён любіў не толькі пакпіць з кагосьці, але і прыемнае зрабіць. А калі гэта можна сумясціць — дык тут з ім ніхто не паспаборнічае. Так і з'яўляліся ў гаспадара новыя пэндзлікі, лішнія слоікі з варэннем ды большыя, чым у суседзяў, ураджаі яблыкаў. Хут на тое і хут, каб гаспадара матэрыяльна падтрымліваць. Вось ужо ён рагатаў, калі гаспадар увечары ўзяў з палічкі кніжку вершаў пачытаць, а адтуль грашовая паперчына выслізнула. Стаяў стары, глядзеў на вокладку вялікімі вачыма ды мармытаў:

— Здаецца ж, не клаў ніколі грошай да дзядзькі Рыгора…

А назаўтра на печцы засталася цэлая яешня на скварках. Такія дні Хут асабліва любіў. І гаспадару прыемна, і яму карысна.

Але такое ладнае жыццё апынулася пад пагрозай. А ўсё дзядулевы ўнучкі, якія ўпершыню за доўгі час прыехалі да яго на канікулы. Затлумяць старому галаву так, што ён не толькі перастане звяртаць увагу на хутавы хітрыкі, але і яешню цяпер будзе гатаваць не яму, а гэтым капрызулям. І абаранкі — таксама ім.

Не, ён ім пакажа, што такое сапраўдны нячысцік. Яны тады ўмомант зніакнуць туды, адкуль з'явіліся! Госцейкі.

Дзяўчаткі сядзелі на арэлях, крыху пагойдваючыся. Старэйшая, худзенькая, вуглаватая, ласкава перабірала рудыя кучаравінкі малодшай. Хут ускараскаўся на яблыню, да якой былі прымацаваныя арэлі, і ўжо



збіраўся добра паскакаць па галінах, каб некалькі недаспелых яблыкаў апалі акурат на гэтыя надакучлівыя галовы, але раптам спыніўся, прыслухаўся.

— Я табе клянуся, Аля, старэнькі такі… На дзядулю падобны. Павуцінне збіраў. Я бачыла. Праўда-праўда, — шаптала малая.

— Бачыла, бачыла. У сне.

— На яве!

«Папаўся, небарака, — задаволена падумаў Хут. — Вось цяпер будзеш даводзіць мне, хто ў хаце галоўны».

З Хатнікам яны не варагавалі, але і сябрамі не былі. Той называў Хута лайдаком ды прыстасаванцам, папракаў несумленнай працай. Казаў, што ён неасцярожны і аднойчы абавязкова патрапіцца людзям. Раней Хут толькі аджартоўваўся, але цяпер меў значна больш сур'ёзныя аргументы. І чарговую нагоду для кпінаў.

***

Агнія амаль не адрывала ног, ідучы па пяску вясковай вулкі, праз што тая пачала нагадваць неба, па якім праляцеў самалёт, пакінуўшы вялікую паласу. Дзяўчынцы падалося забаўным уяўляць сябе самалётам, яна раскінула рукі і ўтварыла гук, падобны да гуку самалётных турбін. Праз гэта не адразу пачула ціхі спеў. На лаўцы каля хаты ляжаў юнак, закінуўшы нагу на нагу і трымаючы ў роце травінку.

— Ах ты ж, Юрачка, што не жэнішся? Прыйдзе зімачка — дзе падзенешся? — ледзь чутно таркатаў хлапец.

— Ну, так… Ведаеш, акрамя хатніка, аказваецца, ёсць яшчэ хлеўнік. Ён жыве ў хляве.

— Угу. Дай-ка здагадаюся: ён даглядае за свойскай жывёлай?

— Не толькі! Калі яго не паважаць, дык ён наадварот крыўдзіць жывёлу, кудлаціць, заблытвае поўсць, крадзе сена. І яшчэ малако ў кароў!

— Неверагоднае паскудства. Ты збіраешся злазіць?

Цікава, ці хопіць ёй моцы зняць або злавіць сястру? Мо ўскараскацца за ёй на дрэва?

— А ведаеш як пазбавіцца ад яго?

— І як жа? Папырскаць свянцонай вадой?

— Не. Трэба павесіць над дзвярыма хлява забітую сароку, — пагрозлівым і жудасным тонам вымавіла малая.

— Фу, Агеньчык, што за вар'яцтва? Адкуль ты гэтага набралася?

— Юрась распавёў. Ён ведае, як пазбавіцца ад любога нячысціка.

Ну канешне, зноў гэты кацяра! Чаго яна да яго так прычапілася? І чаго ён за ёй цягаецца, замест таго, каб мышэй лавіць?

— Можа ён тады распавядзе, як пазбавіцца ад яго самога?

Кот фыркнуў, амаль пакрыўджана, нібы зразумеў яе словы.

— Я не хачу ад яго пазбаўляцца! Ён прышпільны, і ён мне падабаецца. І табе б спадабаўся, калі б ты

28

— У мяне няма Хатніка, бо і хаты ў мяне няма.

— Дзе ж ты жывеш?

— Дзе пашанцуе, там і жыву, — паціснуў плячыма юнак.

— Жах які! Мне трэба тэрмінова пагаварыць з дзядулем…

— Мне няма чым аддзячыць.

— Ты ведаеш казкі? Шмат?

— Табе хопіць, малеча.

— Вось і дамовіліся, — яна пляснула ў далонькі, нібы падпісала дамову. — Я табе — дом, ты мне — казкі.

Юнак задаволена і хітравата ўсміхнуўся.

## ДРУГАЯ

Аліса ляжала на траве і, выставіўшы пад промні худзенькія ногі, разглядала праз сонечныя акуляры яркія летнія нябёсы. Яна ўжо некалькі разоў бралася чытаць кнігу, але штораз адкладала яе. Сысці ў містычны сусвет прыгод не дазваляў неспакой за малодшую сястру. Цяпер Агеньчык цэлымі днямі недзе бадзяецца з новым сябрам — шэрым дваровым катом. Тут, у вёсцы, надта шмат свабоды для малой. З кожным днём яна робіцца больш гарэзлівай і свавольнай. На пытанне «Чаму ў ката мужчынскае імя?» малая адказвала «Таму што яго так завуць». На пытанне: «Ты дзе была?» адказвае: «Там». Аліса павінна

25



была прыглядаць за малодшай сястрой, таму паводзіны малой яе вельмі непакоілі.

Ката да Алісы малая чамусьці не падпускала, а як толькі ён набліжаўся, сурова заўважала: «Не заляцайся!» Спаць у хату яго таксама не запрашала. Аліса, канешне, была рада, але здзіўлена. У горадзе Агеньчык



увесь час цягала дадому розных брудных коцікаў ды блыхастых шчанюкоў. А старэйшая сястра, ясная справа, была вымушана шукаць ім новых гаспадароў сярод сваіх сяброў, бо мама была катэгарычна супраць любых хатніх жывёлін. Нават рыбак.

Дзяўчына пагрукала пазногцікамі па вокладцы кнігі, цяжка ўздыхнула і ўстала. Трэба знайсці малую ды пачынаць гатаваць абед.

Агнія сядзела на галіне яблыні, даволі высока, і боўтала ножкамі ў жоўтых кедах, чухаючы адной рукой кату за вухам. Алісу здзіўляла, што ў звычайнага вясковага ката адно вуха чорнае. Яна бачыла катоў розных колераў, але ў гэтым было нешта асаблівае. Хоць яго расфарбоўка непакоіла яе менш, чым адлегласць Агніі да зямлі.

— О, Аліса, прывіт!

— Ты як туды патрапіла?

— Юрась мяне падсадзіў.

— Тады хай ён цябе адтуль і здымае! Што вы там увогуле робіце?

Аліса злавалася ўсё больш. Няўжо яна дзесяць гадоў таму таксама так мала думала галавой і так шмат рызыкавала дупай? А калі малая саслізне? Ці галіна зламаецца? Яе будзе Юрась лавіць?

— Юрась распавядае мне розныя цікавосткі.

— На зямлі яны б гучалі недастаткова цікава?

Малая не пачула іроніі ў яе словах і сур’ёзна згадзілася:

як можна пасадзіць яго назад. Яна адчувала сябе неверагодна бездапаможнай, бо абсалютна нічога не магла зрабіць, каб вярнуць птушаня маці. Ад злосці па шчоках пабеглі слёзы. Хутка яна ўжо плакала так гучна і адчайна, што пішчання птушаняці амаль не было чуваць.

Стала яшчэ халадней, узняўся моцны вецер. Захісталіся дрэвы, загула ды затрэслася глеба. Малая ўсхапілася, спалохана прыціснула да сябе птушачку.

— Не бойся, я не дазволю цябе пакрыўдзіць, — з дрыжаннем у голасе прамармытала яна.

Перад вачамі з жудасным грукатам з’явіліся дзве вялізныя нагі ў высокіх скураных ботах. Яна закінула галаву, спрабуючы разглядзець твар волата, але ўбачыла толькі даўгую сівую бараду ды вялікую сухую далонь, якая абрусам разгарнулася перад ёй. Не ведаючы дакладна, што павінна зрабіць, Агнія пасадзіла на гэтую руку птушаня. Далонь, нібы ліфт, узнялася ўверх. Дзяўчынка бачыла толькі, як волат рабіў нешта ў кроне дрэва. І зноў усё навокал захрабусцела, загуло, задрыжэла. Малая спалохана заплюшчыла вочы, баючыся, што волат зараз зробіць з ёй што-небудзь жудаснае. Але нічога такога не адбывалася, а цікаўнасць была мацнейшай за страх. На дзіва, замест волата малая ўбачыла перад сабой сівога старога з драўляным кіем ды ў скураной камізэльцы.

32

перастала быць такой упартай. Ён, між іншым, сапраўдны прыгажун.

Кот вадзіў лапкай па пысцы, нібы бянтэжыўся. Ды не, ён проста ўмываўся.

— Я не настолькі старая, каб ты прапаноўвала мне ў пару ката.

— Ён не кот.

— Ну канешне.

— Чаму ты мне не верыш?

— А ў што я павінна верыць? У тое, што гэты шэры блыхасцік — насамрэч прыгажун-юнак, які ўмее змагацца з нячысцікамі? Хочаш так лічыць — на здароўе, але мяне ў свае гульні не ўблытвай. А яшчэ, каб ты ведала, каты ўмеюць толькі залазіць на дрэвы, але не злазіць, — з гэтымі словамі Аліса пайшла дадому, так і не зняўшы сястру.

— Зусім гэта не гульня, — пачулася ўслед. — А Юрась — не кот!

Няўжо яна ў дзяцінстве таксама так дрэнна размяжоўвала рэальнасць і фантазіі? Няўжо яна таксама знаходзіла сяброў сярод жывёлін, цацак і раслін? І наколькі гэта ўвогуле нармальна? Можа, за малую ўжо варта пачынаць хвалявацца? З іншага боку, яна і сама дагэтуль уцякае ў свет фантазій, калі чытае кнігі. Ці моцна гэта адрозніваецца ад Агеньчыкавых прыдумак? Дык калі яна дапускае існаванне фантастычных сусветаў на старонках, чаму не можа існаваць такі ж сусвет у галаве яе малодшай сястры?

29

***

Агнія збірала саспелыя суніцы ў далонькі. Юрась пакінуў яе тут, на ўскрайку лесу, зусім нядаўна. Яму трэба было вырашыць нейкую тэрміновую справу. Ён будзе рады, калі вернецца і даведаецца, што яна назбірала яму такой смакаты. Увогуле ён прасіў яе застацца ў вёсцы, але яна не хацела бавіць час з занадта правільнай і клапатлівай Алісай. Цяпер, калі ён убачыць сунічкі, адразу зразумее, што меў рацыю, ўзяўшы яе з сабой.

Сонейка набліжалася да небасхілу і вакол стаяла вечаровая ціша. З глыбіні лесу раптам пачуўся жаласны піск. Не думаючы пра наступствы, Агнія скіравала ў гушчар. Сунічнік змяніўся на рудую глебу, спрэс пакрытую ігліцай, а высокія сосны — на змрочныя разлапістыя яліны. Стала значна цямней ды халадней. Малая цяжка ўздыхнула, схавала рукі ў кішэні джынсавага камбінезона ды рушыла наперад. Усюды чуліся загадкавыя шорахі, дзіўныя цені скакалі ў розныя бакі, а жаласны піск не рабіўся ні бліжэйшым, ні далейшым. Агнія адчувала сябе няёмка, ёй было боязна. Яна вельмі не любіла месцы, якія можна было намаляваць з дапамогай толькі двух алоўкаў. Напрыклад, лякарні, цёмныя калідоры і пад'езды ў шматпавярхоўках. Але цяпер наперад яе вяло ўпартае жаданне выратаваць кагосьці з небяспекі.

Рашучасць яе крыху паменшала, калі яна нарэшце ўбачыла, каго ёй давядзецца ратаваць. Гэта

30



было мілае пухнатае птушаня з даўгой шыяй і перламутрава-сінім рабаціннем на крылцах. Відавочна, яно выпала з гнязда. І ў Агніі не было ніводнай ідэі,

31

# Кіруй светам!



Ці спрабаваў ты калі ўявіць сябе кіраўніком наймацнейшай дзяржавы? Чалавекам, які ўпэўнена вядзе народ па шляху развіцця? Асобай, якая заслугоўвае месца сярод лепшых лідараў свету, мужна распраўляючыся з ворагамі? Складана? Таму і існуе ў свеце гульня з назвай Sid Meier's Civilization V.

«Цывілізацыя» — гэта глабальная гістарычная пакрокавая стратэгія, якая дазваляе аднаму чалавеку кіраваць развіццём цэлай краіны — эканомікай, палітыкай, насельніцтвам, ростам гарадоў. Да цацкі ёсць два дапаўненні: «Дзіўны Новы Свет» (Brave New World) і «Багі ды Каралі» (Gods&Kings). Яны значна пашыраюць магчымасці «Цывілізацыі», робяць яе больш цікавай і рознабаковай.

Гульня ўключае так шмат усяго, што не ведаеш нават, як выбраць з гэтага галоўнае. Таму паспрабую распавесці пра ўсё-ўсё-ўсё і з самага пачатку.

Трэба найперш вырашыць, як будзе выглядаць кантынент. Можна зрабіць адзін вялікі востраў, можна раздрабніць зямлю на кавалкі, можна стварыць тэрыторыю, падобную на нашу планету, і пабудаваць дзяржаву ў Афрыцы ці Аўстраліі. Наступны крок — выбар кіраўніка. Тут аматары гісторыі дружна скажуць: «О-го-го!» І не дарма, бо «Цывілізацыя» дазваляе паспрабаваць сябе ў ролях каля сарака вялікіх дзеячаў, якія калісьці існавалі ў рэальнасці. Тут і Ота фон Бісмарк, і Махатма Гандзі, і Кацярына II, і Мантэсума. Застаецца выбраць колькасць краін-сапернікаў і цяжкасць гульні — і перад табою новая задача: развіваць краіну з IV тысячагоддзя да нараджэння Хрыста. Табе даюцца атрад будаўнікоў і атрад ваяроў. Будаўнікі адразу ж узвядуць твой першы горад-сталіцу. Гэта сэрца тваёй краіны, яго трэба абараняць да апошняга чалавека ў арміі. У сталіцы ўзводзяцца неабходныя для развіцця будынкі. Яны раз-пораз павялічваюць колькасць правізіі, вытворчасць або культуру горада. Канешне, трэба ствараць у першую чаргу найбольш карысныя будынкі, бо хуткае развіццё — аснова моцнай дзяржавы. Будаваць можна амаль усё, ад звычайных свірнаў да цудаў свету. Дадаткова існуе энцыклапедыя, дзе можна прачытаць цікавыя гістарычныя звесткі пра кожную адзінку гульні.

Пакуль будаўніцтва і рост горада ідуць поўным ходам, ваяры абараняюць яго ад розных нападаў. Адначасова ты засвойваеш навукі і назапашваеш уменні. Будзе твая дзяржава складацца з чатырох-пяці вялікіх гарадоў ці з вялікай колькасці маленькіх — вырашаць табе. Акрамя таго, ёсць магчымасць развіваць сваю рэлігію. Калі ўсё зрабіць стратэгічна правільна, то яна дапаможа захапіць свет. Але будзь уважлівым: сапернікі не менш за цябе жадаюць зрабіць сваю рэлігію сусветнай.

Гуляючы ў «Цывілізацыю», разумееш: кіраваць краінай — нялёгкі занятак. Пабудаваў не тое — і насельніцтва скардзіцца на недахоп ежы і пачынае скарачацца. Не падрыхтаваў дастаткова ваяроў — і гарады захапіў агрэсіўны сапернік. Вывучыў не тую навуку — і краіна адстае ў развіцці і паступова разбураецца. Гуляючы, ты будзеш актыўней працаваць мозгам і навучышся выходзіць са складаных сітуацый.

***Мікіта Савановіч***

# Бярозка

марыць і дзейнічаць



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Дзянісава



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку 17.02.2016 г.
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,37.
Тыраж 1045 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск





Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі — малюнак Алесі Галоты.*

## ЗАГАДКІ АД УДЗЕЛЬНІКАЎ КЛУБА «ІЗЯСЛАЎЦЫ» ЗАСЛАЎСКАЙ ГІМНАЗІІ

***Ад Кацярыны Валовіч, 6 «Б» клас***

***

Сакавік да нас прыйшоў,
І з пагоркаў снег сышоў.
Сталі марыць усе дзеці
Аб канікулах і …

*(леце).*

***Ад Улады Жукоўскай, 5 «Б» клас***

* * *

Дом-палац стаіць высокі,
Нашых ведаў там вытокі.
Радасць свеціцца наўкола.
Ну, вядома, гэта …

*(школа).*

* * *

Палачка цудоўная,
Колерам няроўная.
Варта толькі ў рукі ўзяць —
Пачынае маляваць.

*(Аловак)*

* * *

У школьным ранцы я ляжу,
Як ты вучышся, скажу.

*(Дзённік)*

***Ад Дар'і Гапуцінай, 5 «Б» клас***

* * *

Ёсць пачуццё адно на свеце,
Вядомае дарослым, дзецям.
Мы з ім вяртаемся дамоў,
Мы сустракаем з ім сяброў,
Прымаем слушныя парады…
А пачуццё завецца …

*(радасць).*

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Чалавек скочыў з самалёта без парашута. Ён прызямліўся на цвёрды грунт, але не атрымаў ніякіх пашкоджанняў. Чаму?
**2.** Чаму коні не ядуць «Снікерсы»?
**3.** Што знаходзіцца паміж пляжам і морам?
**4.** Які гадзіннік паказвае дакладны час толькі два разы ў суткі?
**5.** Чым чалавек можа дастаць да неба?
**6.** У аднаго фермера было восем свінак: тры ружовыя, чатыры рудыя і адна чорная. Колькі свінак могуць сказаць, што ў гэтым невялікім статку знойдзецца яшчэ хоць адна свінка такой жа масці, як у іх?
**7.** Тры жабкі сядзелі на беразе сажалкі. Адной захацелася скокнуць у сажалку. Колькі жабак засталося сядзець на беразе.

## Падарунак ад Вожыка




*Аўтар Аляксандр Каршакевіч*

Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Самалёт стаяў на зямлі.
2. А хто ж ім іх дасць?!
3. Літара «і».
4. Сапсаваны.
5. Позіркам.
6. Гэтага не можа сказаць ні адна свінка, бо свінкі не размаўляюць.
7. Тры і засталося, бо адной з іх проста захацелася скокнуць, але ж яна не скокнула.

# Каляндар Бярозка

Даты і падзеі

Што ўспомніць, чым заняцца, што прачытаць

Сакавік


1

Сусветны дзень катоў. На карціне — каты XIX стагоддзя пэндзля галандскай мастачкі Генрыеты Ронер-Кніп.


5

Дзядзьку Кандрату — 120 гадоў! Дзядзька Кандрат напісаў шмат баек, якія вучацца на памяць лёгка і ахвотна. Ведаеш яго, дружа?

*Хто сустрэўся быў са мною,*
*Дакрануўся раз ці два,*
*Дык той ведае ўжо, хто я:*
*Я — пякучка-КРАПІВА.*


7

У гэты дзень у 1876 годзе нарадзіўся тэлефон. Напішы ў «Бярозку» артыкул пра тое, як гэта адбылося!



11

Зацверджаны Другі Статут ВКЛ. Пашукай інфармацыю пра тое, у якім годзе гэта адбылося, і адкажы, чым Другі адрозніваецца ад Першага. Дашлеш адказ на bjarozka@zviazda.by — атрымаеш у падарунак сучаснае выданне Трэцяга Статута. У якім годзе ён выйшаў, ведаеш?


17

270 гадоў таму нарадзіўся Ян Давід Голанд — нямецкі дырыжор і кампазітар, прыдворны капельмайстар нясвіжскіх Радзівілаў, запрошаны асабіста Каралем Станіславам Пане Каханку. Гэты Ян Давід Голанд — аўтар вядомай аперэты «Агатка», лібрэта да якой стварыў Мацей Радзівіл.


21

Сусветны Дзень паэзіі. Добра было б вывучыць які-небудзь верш.

ISSN 0320-7579







Хуткасць вясны — 50 км за суткі.

Ранак года

27

Сусветны Дзень тэатра. Варта паглядзець якую-небудзь пастаноўку.